ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 4 (2458)

25 студзеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

УЛАДА

# НОВЫ ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ І КАРЦІНЫ

**Пад заслону ў мінулым годзе, як і мае быць, мы атрымалі доўгачаканы падарунак -- новы парламент. Але радавацца ці не, пакуль так і не зразумелі. З аднаго боку, маем нядаўні, досыць няўдалы вопыт мінулага Вярхоўнага Савета, з другога -- надзея памірае апошняй.**

**Так, рэйтынг дэпутатаў ВС дванаццатага склікання да моманту завяршэння іхніх паўнамоцтваў у вачах насельніцтва катастрафічна знізіўся. Але ж не з Месяца яны на Беларусь зваліліся, былі паўнамоцнымі народнымі прадстаўнікамі, такімі ж, дарэчы, як і цяперашнія парламентарыі. І ў свой час таксама кляліся пакласці на алтар барацьбы за шчасце і дабрабыт выбаршчыкаў усе сілы і здольнасці... А вынік! Мякка кажучы -- сумны. Дзе тады гарантыі, што з новай заканадаўчай уладай не здарыцца штосьці падобнае! Можа, палітычныя густы выбаршчыкаў кардынальна змяніліся! Дык не, зноў лідзіруе камуністычная большасць. Магчыма, падрыхтаванасць новаспечаных дэпутатаў павысіла... тут адказ адмоўны. У спісе прафесій часцей за ўсё сустра...цца калгасныя старшыні, дырэктары прадпрыемстваў, зрэдку ўрачы, настаўнікі, інжынеры... Як анекдот гучыць расказ адной журналісткі, якая на пытанне, ці быў на пасяджэнні кворум, у адказ пачула: кармоў у нас у калгасе досыць.**

**Безумоўна, новыя дэпутаты, як іх папярэднікі, у рэшце рэшт набяруцца вопыту, нечаму навучацца. Вось калі тое свят... ...тане!.. Нам жа па-ранейшаму прыходзіцца чакаць і ўсё, ...ой пушкінскай старой -- каля разбітых начовак...Праўда, ёсць у дэпутацкім корпусе парламентарыі са стажам. Іх не так шмат, але дастаткова, каб па першым часе падтрымаць прафесіянальнае рэнаме новых заканадаўцаў. І ўсё ж сёння Вярхоўны Савет больш нагадвае хор, які толькі-толькі пачынае спеўку. Ці атрымаецца добрая суладная песня, залежыць ад саміх спевакоў, ад сольнай партыі кожнага паасобку.**

**А пакуль штрыхі да партрэта новага заканадаўчага органа Беларусі. Слова дэпутатам Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання.**

**Генадзь КАРПЕНКА, член фракцыі "Грамадзянскае дзеянне", атрымаў дэпутацкі мандат другі раз.**

-- Настрой рабочы, аптымістычны. Лічу, у новым парламенце хапае разумных людзей, якія правільна ацэньваюць становішча, што ўтварылася ў краіне. Прычым добра падрыхтаваныя кадры ёсць у складзе ўсіх фракцый. Мяркую, парламент здолее прыняць канструктыўныя рашэнні. Напачатку, зразумела, трэба вырашыць арганізацыйныя пытанні, а потым плаўна перайсці да абмеркавання эканамічных. Я не падзяляю думку тых калег, якія прапануюць першачаргова разглядаць падатковую сістэму і бюджэт.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Народны ансамбль песні і танца з Віцебшчыны "Талака".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

З ГІСТОРЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ

# СКАЛЬПЕЛЬ І ВІНТОЎКА

**Пры словах "партызанскі рух" у кожнага, відаць, найперш узнікаюць вобразы народных мсціўцаў, якія ўзрывалі чыгунку, пускаючы пад адхон варожыя эшалоны, смела нападалі на нямецкія гарнізоны, знішчалі карнікаў і г.д. Але баявыя дзеянні партызан наўрад ці былі б магчымыя, калі б, напрыклад, не было каму лячыць параненых партызан.**

Ужо ў верасні-кастрычніку 1941 года ў партызанскіх атрадах Палескай вобласці былі ўрачы і сярэдні медыцынскі персанал. Першымі медыцынскімі работнікамі, якія прымкнулі да партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці, былі ўрачы І.Крук, А.Дудзінская, С.Швец, Л.Зубчонак, якая, акрамя медыцынскай работы, выконвала ролю сувязной паміж групамі, распаўсюджвала лістоўкі, медсёстры М.Касцюкевіч, М.Вежнавец, фельчар Дубовік і інш. Невялікія партызанскія групы, адсутнасць пастаянных, строга вызначаных зон, асабліва ў першы год вайны, стваралі надзвычай цяжкія ўмовы для арганізацыі паўнацэннай медыцынскай дапамогі хворым і раненым партызанам.

**(Працяг на 4-й стар.).**

ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС І ДУХОЎНЫ СКАРБ НАЦЫІ

# ДЫНАСТЫЯ ГЕНЕРАЛАВЫХ

Пастаянныя наведвальнікі беларускага опернага тэатра даўно ведаюць імёны народнага артыста Беларусі Анатолія Генералава, выдатнай піяністкі, канцэртмайстра тэатра заслужанай артысткі Беларусі Ніны Ражновай, саліста оперы Уладзіміра Генералава, народнай артысткі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Ірыны Шыкуновай, якія на працягу многіх гадоў з'яўляліся выканаўцамі асноўных партый класічнага опернага рэпертуару. Згадваюцца яны разам таму, што гэта своеасаблівая оперная дынастыя, нашы сучаснікі, аб'яднаныя не толькі агульнай любоўю да опернага тэатра, вялікім музычным і артыстычным талентам, скіраваным на развіццё беларускага мастацтва, але і шчаслівымі роднаснымі адносінамі.

Шлях Анатоля Генералава ў беларускую оперу пачынаўся з другой паловы 50-х, калі ён пасля заканчэння музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных у Маскве быў запрошаны на працу ў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета. З той пары ўвайшоў у "залатую" плеяду спевакоў, стаў гонарам беларускай опернай сцэны, прыносіў радасць і задавальненне аматарам высокага опернага мастацтва. І самае дзіўнае, што ён, рускі па нацыянальнасці, пачаў свае першыя партыі з беларускіх опер, дасканала авалодаўшы беларускай мовай, якая лілася з яго вуснаў гэтак жа арганічна і мілагучна, як італьянская і руская. Гэта ўласціва, дарэчы, усім высокаталенавітым, інтэлігентным, чулым і эстэтычна выхаваным людзям -- валодаць мовай краіны, у якой жывеш, ставіцца да яе з той жа павагай, як і да сваёй роднай.

Драматычны барытон прыгожага тэмбру і шырокага дыяпазону, глыбокая вакальная культура, удумлівае пранікненне ў вакальна-сцэнічны вобраз, знешняя прыгажосць маладога спевака адразу звярнулі на сябе ўвагу публікі і калег па тэатру. Першая роля на сцэне беларускага опернага -- партыя Апанаса ў оперы Я.Цікоцкага "Дзяўчына з Палесся". Поспех быў агромністы. З'явіліся станоўчыя артыкулы тэатральнай крытыкі. Аматары і знаўцы оперы спецыяльна пачалі хадзіць "на Генералава". З таго часу мы мелі магчымасць чуць яго голас, цешыцца высокім артыстызмам спевака ў операх беларускіх кампазітараў: Я.Цікоцкага, А.Туранкова, А.Багатырова, рускіх і заходнееўрапейскіх: А.Барадзіна, А.Рубінштэйна, М.Рымскага-Корсакава, М.Мусаргскага, П.Чайкоўскага, Дж. Вердзі, Дж. Пучыні.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ — КАЗАХСТАН*



17--18 студзеня адбыўся афіцыйны візіт у Рэспубліку Беларусь Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан Нурсултана Назарбаева. Падпісаны важныя дакументы.

**НА ЗДЫМКУ:** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА і Прэзідэнт Рэспублікі Казахстан Нурсултан НАЗАРБАЕЎ падпісваюць сумесныя дакументы.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## АБАРАНЯЮЧЫ ІНТАРЭСЫ РАСІІ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не выключае магчымасць перагляду абавязацельстваў рэспублікі аб вывадзе ядзернай зброі з яе тэрыторыі.

Пацвердзіўшы 18 студзеня на сустрэчы з вучонымі ў Расійскай акадэміі навук у Маскве пазіцыю Беларусі, якая выступае катэгарычна супраць расшырэння НАТО на Усход, А. Лукашэнка дабавіў: "Як бы нам зноў не давялося размяшчаць на тэрыторыі Беларусі выведзеную раней ядзерную зброю".

Паводле яго слоў, непрыняцце Прэзідэнтам Беларусі ідэі расшырэння НАТО прывяло да таго, што А. Лукашэнка "стаў чужым не толькі для Захаду, але і для пэўных палітычных сіл у Расіі".

"Мы гатовы абараняць свае інтарэсы на заходніх межах, абараняючы пры гэтым і інтарэсы Ра[illegible] з заходнім напрамку", -- падкрэсліў кіраўнік бе[illegible]скай дзяржавы.

"На заходняй мяжы ў Расіі ёсць дружалюбная беларуская армія, а на Усходзе, я думаю, вы самі сябе абароніце", -- сказаў А. Лукашэнка.

*ПЕРШЫ ПРЫЁМ*

## МЕСЦА БЕЛАРУСІ — У САВЕЦЕ ЕЎРОПЫ



Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі сустрэўся з намеснікам дырэктара Палітычнага дэпартамента Савета Еўропы Жан-Луі Ларанам. Ж.-Л.Ларан стаў першым высокапастаўленым замежным прадстаўніком, якога прыняў новы спікер парламента нашай дзяржавы.

Высокі госць паведаміў кіраўніку заканадаўчай улады рэспублікі аб тым, што прадстаўнікі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы падрыхтавалі падрабязны даклад аб ходзе і выніках выбараў у наш Вярхоўны Савет. Выбары, паводле водгукаў міжнародных назіральнікаў, прайшлі ў нас дэмакратычна, і, такім чынам, першая ўмова ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы выканана. "Цяпер, -- зазначыў Ж.-Л.Ларан, -- вас чакаюць наступныя ўмовы, аднак я веру, што і яны будуць выкананы і ваша краіна займе дастойнае месца сярод дзяржаў кантынента".

Нашу краіну наведаюць і іншыя прадстаўнікі СЕ. Так, тры самыя ўплывовыя юрысты будуць рыхтаваць даклад аб стане заканадаўства ў Беларусі. Іх справаздача, між іншым, стане асновай даклада пры разглядзе пытання аб нашым членстве ў Савеце Еўропы. Завітаюць таксама да нас прадстаўнікі названых вышэй трох асноўных камітэтаў, іншых падраздзяленняў СЕ.

Крокаў да ўступлення Беларусі ў гэту важную ўплывовую еўрапейскую арганізацыю яшчэ трэба будзе зрабіць нямала. "Нам трэба развіваць і пашыраць супрацоўніцтва, -- сказаў Жан-Луі Ларан. -- Савет Еўропы не можа існаваць без таго, што ў яго саставе няма пакуль дзяржавы, якая сапраўды знаходзіцца ў самым цэнтры нашага кантынента".

**НА ЗДЫМКУ:** у час сустрэчы С.ШАРЭЦКАГА з Ж.-Л.ЛАРАНАМ.

*НАМІНАЦЫІ*

## ЖАНЧЫНЫ ГОДА

У дні святкавання Нараджэння Хрыстова і напярэдадні святкавання Хрышчэння Гасподняга Усебеларускі жаночы фонд прападобнай Ефрасінні Полацкай, які ў канцы года набыў статус міжнароднай арганізацыі, звярнуўся да ўсіх жанчын.

У звароце, у прыватнасці, гаворыцца: "Мы, жанчыны свету, жадаем, каб свято Віфлеемскай зоркі, радасць веры заўсёды ўмацоўвалі хрысціянскія асновы нашага жыцця. Няхай сіла слова Божага дае нам новыя сілы на будучае..."

Арганізацыя працягвае традыцыі, што закладзены ў мінулыя гады, -- абранне жанчын года і ўзнагароджанне іх медалём прападобнай Ефрасінні Полацкай. Такімі, на думку фонду, у 1995 годзе сталі: у галіне духоўнага адраджэння і ўмацавання веры -- старэйшая манашка Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ігумення Ефрасіння; у галіне развіцця медыцынскай навукі і аздараўлення беларускага народа -- доктар медыцынскіх навук, прафесар Мінскага медыцынскага інстытута, галоўны ўрач-афтальмолаг рэспублікі акадэмік Тамара Бірыч; у галіне педагагічных навук і асветы -- прафесар, рэктар Беларускага універсітэта культуры, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі Ядвіга Грыгаровіч; у галіне ўмацавання гуманістычных традыцый славянскай культуры -- лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны, узнагароджаная Ганаровым знакам Прэзідэнта Украіны, паэтэса Ліна Кастэнка.

*ДЗІЦЯЧАЯ ВЁСКА*



Яшчэ на два дамы стала большай славутая Дзіцячая вёска на ўскраіне Кобрына, у якой жывуць са сваімі прыёмнымі мамамі дзеці-сіроты. Падобнага населенага пункта няма ні ў адной [illegible]не Еўропы. У арыгінальнай архітэктуры кат[illegible]ках знайшлі прытулак ужо каля ста пакрыўджаных лёсам і ўласнымі бацькамі, але не кінутых дзяржавай дзяцей.

**НА ЗДЫМКУ:** два новыя катэджы для дзяцей-сірот з'явіліся напярэдадні Новага года пад Кобрынам.

*У ТБМ*

## ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Сакратарыят таварыства беларускай мовы вызначыў дату правядзення навуковай канферэнцыі "Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты" -- 30 сакавіка гэтага года. Вырашана запрасіць да ўдзелу ў арганізацыі гэтага форуму як мага больш шырокае кола грамадскіх, палітычных арганізацый і дзяржаўных устаноў.

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН сябар сакратарыята ТБМ Вінцук Вячорка, сярод мэтаў канферэнцыі -- тэарэтычнае асэнсаванне і напрацоўка больш поўнага фактычнага матэрыялу для правільнай ацэнкі становішча, у якім апынулася беларуская мова ў выніку працяглай дыскрымінацыі. В. Вячорка спадзяецца, што гэты форум непазбежна прыцягне ўвагу грамадства да праблемы беларускай мовы, прымусіць паглядзець на яе паслярэферэндумаўскі стан новымі вачыма, асэнсаваць, што вынікі рэферэндуму прадвызначылі маніпуляцыя масавай свядомасцю і сфарміраваныя на працягу вякоў той акупацыйнай дыскрымінацыі стэрэатыпы. Па словах В. Вячоркі, на канферэнцыі, магчыма, будуць прааналізаваны законнасць і падставы рэферэндуму з юрыдычнага пункту гледжання. Акрамя таго, сам факт правядзення канферэнцыі на тэму дыскрымінацыі беларускай мовы ў беларускай жа дзяржаве не можа не прыцягнуць увагі і сусветнай грамадскасці.

*ПРАГНОЗЫ...*

## КЕПСКАЯ ТЭНДЭНЦЫЯ

Па прагнозах спецыялістаў рэспубліканскай службы занятасці, у надыходзячым годзе тэндэнцыя да павелічэння колькасці беспрацоўных будзе захоўвацца.

Мяркуецца, што на рынак працы ў 1996 годзе прыйдзе больш за 900 тысяч працаздольных грамадзян, з іх каля 500 тысяч чалавек працаўладкуюцца самастойна, каля 400 тысяч звернуцца ў службу занятасці. Апошняя будзе ў стане аказаць дапамогу толькі 100 тысячам чалавек. Дарэчы, прыкладна такую ж лічбу (100 тысяч), на думку спецыялістаў, складзе колькасць беспрацоўных ва ўзросце да 25 гадоў.

Службай занятасці распрацаваны шэраг праграм, што дазваляюць змякчыць негатыўныя вынікі скарачэння рабочых месцаў. Галоўная роля ў даным выпадку адводзіцца праграме перападрыхтоўкі кадраў. Асобам, якія страцілі работу, будуць прадастаўляцца субсідыі на адкрыццё ўласнай справы. Зрэшты, як паказвае практыка, працэнт беспрацоўных, якія атрымалі такія субсідыі і прымянілі іх для арганізацыі прыватнага бізнесу, занадта нязначны -- прыкладна да 10 працэнтаў.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НА 1 СТУДЗЕНЯ 1966 года ў Беларусі налічвалася 10 мільёнаў 315 тысяч жыхароў. Як сведчыць статыстыка, насельніцтва дзяржавы паменшылася на 30 тысяч чалавек. За мінулы год колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 25 тысяч чалавек.

ПАТРАБАВАННЕ Нацыянальнага банка мець статутны фонд у суме, эквівалентнай 2 000 000 экю да канца 1995 года выканалі толькі 18 камерцыйных банкаў Беларусі. Яшчэ 10 банкаў маюць шанц выйсці на вызначаны рубеж у студзені-лютым гэтага года. Астатнія 14 камерцыйных банкаў, відаць, чакае незайздросны лёс.

ЗА АДЗІН дзень сярэднестатыстычны жыхар Беларусі з'ядае 261 грам хлеба -- адну чвэрць буханкі. А ўсяго ж за дзень Беларусь з'ядае 2 тысячы тон хлеба. У параўнанні з 1994 годам аб'ёмы вытворчасці хлебабулачных вырабаў знізіліся на 16 працэнтаў.

У САЛІГОРСКУ на ачышчальных збудаваннях зімавалі 20 лебедзяў. Пасля таго, як па мясцовым тэлебачанні расказалі пра гэта дзіва, лебедзяў засталося толькі тры. Астатнім скруцілі галовы наш скваплы, талерантны беларус.

МІЖНАРОДНЫ банк развіцця створаны ў Мінску. Яго заснавальнікі -- Банк Сан-Францыска і фінансава-інвестыцыйныя кампаніі ЗША, нашу дзяржаву прадстаўляюць Беларускі банк рэканверсії і развіцця і Беларускі медыцынскі банк. Статутны капітал -- 6 700 000 долараў ЗША.

ЯК СТАЛА вядома з кампетэнтных крыніц, летась да пакарання смерцю ў Беларусі былі прыгавораны 47 злачынцаў. У адносінах да 26 з іх прыгавор прыведзены ў выкананне. Астатнія справы знаходзяцца на разглядзе або ў Вярхоўным судзе, або ў Прэзідэнта краіны.

*ЖЫЛЛЁВАЯ ПРАБЛЕМА*

## САЦЫЯЛІЗМУ НЕ БУДЗЕ

Недахоп бюджэтных сродкаў прымушае перайсці ад прынцыпу бясплатнага размеркавання жылля да свабоднага продажу кватэр. Пэўнымі льготамі надзелены ветэраны вайны ў Афганістане, ліквідатары аварыі на ЧАЭС і іншыя катэгорыі насельніцтва, перад якімі грамадства ў даўгу. Яны атрымаюць жыллё бясплатна, але без права прыватызацыі. Для іншых распрацавана гібкая сістэма дзяржаўных субсідый на ўласнае будаўніцтва. Памер гэтых субсідый будзе залежаць ад узроўню даходу прэтэндэнта, саставу сям'і, сумеснага паю прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць" і вялікай колькасці іншых умоў, але не перавысіць 70 працэнтаў ад кошту жылплошчы з тыповымі спажывецкімі якасцямі.

*ТРЭЦЯЯ МІЖНАРОДНАЯ*



У выставачным комплексе "Мінскэкспа" адкрылася трэцяя міжнародная выстава "Рэклама. Выдавецкія сістэмы. Аператыўная паліграфія" і "Прэса Беларусі-96". У ёй прымаюць удзел каля 50 выдавецтваў і выданняў, сярод якіх цэнтральныя рэспубліканскія газеты і незалежныя выданні, рэкламныя кампаніі і акцыянерныя таварыствы.

**НА ЗДЫМКУ:** у час работы выставы.

# НОВЫ ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ І КАРЦІНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Мне здаецца, адразу неабходна паслухаць Прэзідэнта і прэм'ера пра агульны эканамічны стан, даведацца пра іх бачанне шляхоў далейшага развіцця краіны. Упэўнены, гэта зацікавіць і выбаршчыкаў, якія жадаюць ведаць, што ж чакае ўсіх нас заўтра.

Калі паспрабаваць спрагназаваць будучыню цяперашняга Вярхоўнага Савета, думаю, ён не паўторыць драматычны лёс расійскіх калег 1993 года. Проста новых дэпутатаў імкнуцца запалохаць. Калі ж у чыю-небудзь галаву такая думка і прыйдзе, то ў першую чаргу рашэнне знішчыць парламент абернецца трагедыяй для тых, хто яго прыме.

Думаю, шмат залежыць і ад самога парламента, які павінен улічваць памылкі папярэднікаў. Дарэчы, можна гаварыць нават пра этапы "падзення" мінулага заканадаўчага сходу. Самыя першыя крокі на гэтай сцежцы былі зроблены, калі выканаўчая ўлада беспакарана выкінула некаторых дэпутатаў з работы, напрыклад, галоўных рэдактараў буйных дзяржаўных выданняў. Увогуле шэраг адміністрацыйных і кадравых рашэнняў прымаўся з парушэннем дзеючага заканадаўства. Другі этап -- калі ў залу пасяджэнняў увайшлі войскі і збілі апазіцыю. Нягледзячы на ненармальнасць такога абуральнага здарэння, Вярхоўны Савет не здолеў адэкватна на яго адрэагаваць і абараніць гонар дэпутатаў. І трэцяе -- масавае перабяганне парламентарыяў у выканаўчыя структуры -- так званую "вертыкаль", што на справе можна расцэньваць як здраду ідэі парламентарызму.

**Уладзімір ГАНЧАРЫК, член фракцыі "Згода", старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, таксама абраны ў Вярхоўны Савет другі раз.**

-- Пачатак работы сесіі склаўся прыблізна так, як я і чакаў. Цяжка знаходзяць агульную мову фракцыі, мабыць, усё яшчэ імкнуцца ўсвядоміць, чаго вартыя і на якую падтрымку могуць спадзявацца. Пасля выбараў кіраўніцтва лічу першаступенным разгледзець падаткі і бюджэт -- многія буйныя прадпрыемствы знаходзяцца на мяжы магчымасцей. Калі не прыняць тэрміновых канкрэтных рашэнняў, звязаных з крэдытнай палітыкай, існаванне новага парламента стане чыста фармальным. Слухаць даклады міністра фінансаў, прэм'ера сёння не мае сэнсу: нічога новага не пачуем. Пазіцыя Прэзідэнта таксама добра вядомая. Зараз неабходна прааналізаваць той стан, што ёсць. Нельга губляць час, трэба хутчэй увасходзіць у працоўную плынь. Тым больш, шмат дэпутатаў літаральна пачынаюць з нуля, што добра бачна па іх выступленнях. Некаторыя проста не разумеюць, у якім становішчы апынуліся. Але ёсць група парламентарыяў, якія атрымалі свае мандаты паўторна альбо дагэтуль займалі адказныя, высокія пасады -- юрысты, эканамісты, ім будзе прасцей.

Вельмі важна адразу ж высветліць магчымае развіццё адносін з Прэзідэнтам. На жаль, верагодны варыянт не лепшага ўзору, бо першыя адзнакі канфрантацыі ўжо пазначыліся - пікіроўка, высвятленне адносін асабіста з некаторымі дэпутатамі. Гэта не лепшы пачатак.

Тым не менш, мы ў стане весці ўсе справы спакойна і канструктыўна. Увогуле існаванне цяперашняга парламента -- у інтарэсах самога Прэзідэнта, бо акрамя ўлады і велізарных правоў, ён нясе і адказнасць, якую заўсёды няпішне з кім-небудзь "падзяліць". А з кім? Толькі з заканадаўчай уладай.

Лічу, Вярхоўны Савет зараз займае крыху іншае месца, чым папярэдні. Кіраўнік дзяржавы -- Прэзідэнт усё ж вышэй, ён падпісвае законы, прынятыя ў Авальнай зале -- так складзена Канстытуцыя. Але хаця ўлада Прэзідэнта вельмі значная, яна не такая бязмежная, каб кіраваць парламентам.

Сваю задачу як дэпутат і старшыня ФПБ бачу ў ініцыіраванні карэкціроўкі блока законаў эканамічнага характару, бо сённяшні жорсткі, можна сказаць, манетарысцкі курс вядзе да знішчэння вытворчасці. Для мяне галоўнае не тое, каб даць людзям заробтную плату, а трэба забяспечыць магчымасць яе зарабляць. Мне здаецца бясспрэчным: патрэбна эканоміка змешанага тыпу, падтрымка розных форм уласнасці, зніжэнне падатковага прэсу і г.д. Прафсаюзы зыходзяць з таго, што трэба максімальна дамаўляцца, а гэта пакуль яшчэ можна.

**Сяргей КАЛЯКІН, член фракцыі камуністаў. Дэпутатам абраны ўпершыню.**

*-- Сяргей Іванавіч, якія стратэгічныя мэты знаходжання камуністаў у парламенце?*

-- Мы хацелі б пэўныя моманты кардынальна змяніць, але сёння расклад палітычных сіл такі, што, нават аб'яднаўшыся з аграрыямі (а з імі ў нас ёсць шэраг разыходжанняў праграмнага характару), мы не маем абсалютнай большасці -- толькі сорак працэнтаў. Гэтага мала.

Перагляду патрабуюць стратэгія і тактыка развіцця эканомікі, што вельмі няпроста. Тым не менш шэраг тактычных крокаў у гэтым накірунку, мяркую, можна зрабіць. І першым, што адбудзецца досыць хутка, будзе разгляд падатковага заканадаўства і зацвярджэнне бюджэту на наступны год, гэта нейкім чынам палепшыць сітуацыю. Хаця кардынальна змяніць тую ж падатковую сістэму пакуль немагчыма: патрэб[illegible]ачны час, якога якраз няма. Рэспу[illegible]а павінна жыць і працаваць з сфарміраваным бюджэтам, пасля прыняцця якога, калі збалансаваны даходы і расходы, усе размовы пра змяненне падатковага заканадаўства губляюць сэнс і робяцца проста самагубст[illegible]

*-- Вы хочаце, каб усё вярнулася і было як раней?*

-- Не.

*-- Вы прытрымліваецеся традыцыйных камуністычных прынцыпаў, як, напрыклад, класавы падыход, дыктатура пралетарыяту?..*

-- У пэўных момантах класавы падыход існуе, нават незалежна ад таго, прызнаём мы яго ці не. Ніколі наёмны рабочы не стане адносіцца да пэўных сацыяльных з'яў так, як уласнік. Але сёння не канец XIX стагоддзя і не пачатак XX, набліжаемся да трэцяга тысячагоддзя. Натуральна, змянілася грамадства, нашы веды пра яго, змяніліся і падыходы. І цяпер галоўнае, што павінна забяспечыць кожнаму дзяржава -- гэта, па-першае, магчымасць працаваць, па-другое, атрымліваць за сваю працу матэрыяльнае ўзнагароджанне, адпаведнае колькасці і якасці затрачаных ім намаганняў.

*-- Ці лічыце вы сябе ўсенародна абраным?*

-- Я не лічу сябе ўсенародна абраным. У парламенце прадстаўляю інтарэсы тых людзей, якія за нас, камуністаў, прагаласавалі. Але ёсць дэпутаты, якія набралі абсалютную большасць галасоў выбаршчыкаў у акрузе, дзе балаціраваліся. Адно магу сказаць: усе абраны законным шляхам, маюць поўнае права выказваць волю народа Беларусі.

**Валерый ШЧУКІН, член фракцыі камуністаў.**

*-- Вы адзіны ў парламенце прыходзіце на пасяджэнні ў белай кашулі, вышыванай чырвоным арнаментам...*

-- А як жа? Знаходжуся ў заканадаўчым органе Беларусі і лічу, так павінны ўсе апранацца.

*-- Вы размаўляеце па-беларуску?*

-- Ведаеце, я нарадзіўся і вырас у Савецкім Саюзе, я -- грамадзянін Савецкага Саюза, мая маці-беларуска спявала мне калыханкі па-руску. Увогуле ў нас не было патрэбы ў беларускай мове. Спачатку вучыўся ў беларускамоўнай школе ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці, і маці спецыяльна перавезла мяне ў Мінск з адной мэтай -- каб пайшоў у рускую школу. Я магу размаўляць па-беларуску, але гэта будзе вельмі цяжка і марудна.

*-- А вы не хацелі б навучыцца свабодна валодаць роднай мовай?*

-- Мне ідзе шосты дзесятак, пазнавата.

*-- Калі ў парламенце будзе галасавацца якое-небудзь рашэнне, скіраванае на ўмацаванне пазіцый беларускай мовы, ці выкажацеся вы "за"?*

-- Болей таго, я ўжо ваюю з міністрам адукацыі Стражавым, бо ён "разагнаў" беларускамоўныя класы. Той, хто хоча вучыцца па-беларуску, павінен мець такую магчымасць, нягледзячы ні на якія фінансавыя выдаткі.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, былы спікер Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання, член фракцыі "Грамадзянскае дзеянне", таксама атрымаў дэпутацкі мандат паўторна.**

*-- Станіслаў Станіслававіч, ці будзе каму ў новым парламенце адстойваць інтарэсы беларускай нацыянальнай ідэі, беларускай мовы і культуры?*

-- Як я бачу, толькі што абраны парламенцкі старшыня забыўся беларускую мову, думаю, і яго намеснікі наўрад ці будуць ёю валодаць і карыстацца. Такім чынам, становішча [illegible]сыць цяжкае. Але, спадзяюся, [illegible]я адумаюцца, бо ёсць сярод нас дэ[illegible]аты нацыянальна свядомыя, ёсць культурна свядомыя і проста добра адукаваныя людзі. Толькі патрэбны час. Сёння зруйнавана пераймальнасць. На жаль, галава дзяржавы не карыстаецца роднай мовай, а таму не зацікаў[illegible]ы, каб падтрымаць тых, хто ад яе [illegible]д-мовіўся.

*-- Ці значыцца беларускае адраджэнне ў праграмных дакументах якіх-небудзь фракцый?*

-- У фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" першы пункт -- канстытуцыйнасць, а другі -- дзяржаўнасць.

*-- Ці можна сказаць, што гэтая фракцыя нейкім чынам зойме месца прайграўшага на выбарах Беларускага народнага фронту?*

-- Так нельга ставіць пытанне. Я не лічу, што трэба займаць месца БНФ. У дзейнасці БНФ існавала шмат станоўчага, але хапала хібаў і памылак, галоўная сярод якіх, па-руску кажучы, -- "вождизм", ад чаго мы ў свой практыцы рашуча адмаўляемся. У нас ідзе прыстойнае абмеркаванне пытанняў, улічваюцца думкі тых, хто не прымае ці не адразу прымае пазіцыю старшыні, якая таксама нярэдка церпіць карэкціроўку.

*-- Такім чынам, можна спадзявацца, што і ў новым Вярхоўным Савеце загучаць балючыя пытанні беларускага адраджэння?*

-- Ну, я ж пакуль, дзякуй Богу, жывы...

**Вось прыблізна такі ён, Вярхоўны Савет Беларусі трынаццатага склікання. Зразумела, у адным газетным артыкуле нельга прэтэндаваць на паўнату адлюстравання карціны. Тым больш, гэта толькі пачатак. Абавязкова яшчэ выявяцца на палітычным небасхіле новыя зоркі, адбудуцца цікавыя падзеі... Адно хацелася б, каб лічба 13 не стала ракавой ні для парламента, ні для ўсіх нас. Дарэчы, для многіх яна нават шчаслівая...**

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ЛЕТАПІСЕЦ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ



**12 студзеня 1921 года Прэзідыум ЦВК Беларусі прыняў рашэнне аб арганізацыі ў Мінску Беларускага тэлеграфнага агенцтва -- БелТА. З таго часу прайшло 75 гадоў, і сёння журналісты гэтага інфармацыйнага агенцтва заслужана святкуюць слаўны юбілей сваёй арганізацыі. З першых заметак у перыядычным друку карэспандэнты-белтаўцы шырока паказвалі жыццё роднай Беларусі. Іх слова, а потым і фотаздымкі разыходзіліся па ўсяму свету, несучы славу беларускага народа-працаўніка, руплівага і добрага гаспадара, храбрага і самаадданага воіна, вернага сябра.**

**З паметкай "БЕЛТА" ў беларускіх і замежных сродках масавай інфармацыі сёння публікуюцца афіцыйныя паведамленні аб рабоце органаў улады рэспублікі і карэспандэнцыі аб надзённым клопаце радавых працаўнікоў, справаздачы аб спартыўных спаборніцтвах і разнастайныя фотарэпартажы.**

**Многа змен адбылося ў жыцці агенцтва. Адыходзіць у мінулае, напрыклад, тэлеграф, на яго месца прыходзяць найноўшыя сродкі перадачы інфармацыі. Але сама яна таксама дакладна паступае ў рэдакцыі, яе змест таксама вывераны і аргументаваны.**

**У дзень юбілею калектыў агенцтва павіншаваў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, назваўшы яго летапісцам гісторыі Беларусі, пажадаўшы супрацоўнікам творчага натхнення на карысць Беларусі і нашага народа.**

**НА ЗДЫМКАХ: фотакарэспандэнт БелТА В.ЛУПЕЙКА ўсю вайну прайшоў разам з партызанамі, адлюстраваў на сваіх здымках іх бессмяротны подзвіг. Вось адзін з іх -- "Партызаны вядуць стральбу па фашысцкаму самалёту"; выпускніком факультэта журналістыкі прыйшоў у БелТА чвэрць стагоддзя назад фотакарэспандэнт Аляксандр НІКАЛАЕЎ.**

**Фота з архіва і Генадзя СЯМЁНАВА.**



## НАВАГОДНЯЯ ПАШТОЎКА

Шаноўная рэдакцыя, віншую вас з Новым, 1996 годам!

Жадаю вашаму дружнаму калектыву творчых поспехаў у высакароднай справе згуртавання беларусаў, нацыянальнай асветы і адраджэння беларускасці ў беларусаў, вяртанні славутых імёнаў з небыцця, прапагандзе дэмакратычных прынцыпаў і нацыянальнай ідэі. А асабіста ўсім вам жадаю моцнага здароўя і шчасця!

За 6 гадоў, што я чытаю "Голас Радзімы", даведаўся пра нашу Бацькаўшчыну больш, чым за час навучання ў сямігодцы, чыгуначным тэхнікуме і політэхнічным інстытуце. Газета стала для мяне падручнікам па беларускай мове. І цяпер мне не прыходзіцца чырванець, калі ўкраінскія сябры пытаюць, ці ведаю я беларускую мову. Ведаю! Шкада, што, прыязджаючы дамоў, не маю з кім папрактыкавацца ў размове -- усе гавораць на расейскай.

**Леанід КРЫСЮК.**

Украіна.

## З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДА

Становяцца традыцыйнымі навагоднія сустрэчы пасольства Рэспублікі Беларусь з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Літве. Заканчэнне 1995-га года і сустрэчу Новага 1996 года адзначылі сваёй прысутнасцю мінскія госці: намеснік міністра камунальнай гаспадаркі Георгій Дабравольскі і дырэктар завода металавырабаў У.Сароўскі. Нязмушаную сяброўскую атмасферу сустрэчы падкрэслівалі музыкальныя паўзы пад удалым кіраўніцтвам опернага артыста -- Леаніда Мурашкі.

Акрамя пасла Рэспублікі Беларусь Я.Вайтовіча, прысутнічалі супрацоўнікі -- саветнік В.Гейсік, Н.Якшцене, Т.Вайтовіч і іншыя.

Вітаючы гасцей з метраполіі і прадстаўнікоў віленскай інтэлігенцыі, пасол Беларусі Яўген Вайтовіч сказаў:

-- Мы ўпэўнена можам ганарыцца вынікамі супрацоўніцтва пасольства і нашай дзяржавы з Літоўскай Рэспублікай. Зроблена не ўсё, што хацелася б, але і нямала. У мінулым 1995 годзе беларускі і літоўскі ўрады ўзгаднілі і падпісалі важныя міждзяржаўныя дакументы ў палітычнай, эканамічнай і культурнай галінах. Таксама вырашаны шэраг адміністрацыйных пытанняў. У выніку наладзіліся нармальныя адносіны пагранічных службаў, устаноўлены (хоць недасканалы) візавы рэжым. Рэзка ўзраслі аб'ёмы тавараабароту. У параўнанні з папярэднім годам яны павялічыліся ў 4 разы!

Імпарт і экспарт прамысловых, прадуктовых і іншых вырабаў заняў важнае месца ў гаспадарцы як Беларусі, так і Літвы. Дастаткова напомніць, што Літва адносна Беларусі (і наадварот) абганяе ў галіне экспарту Расійскую Федэрацыю! Здаровыя палітычныя і культурныя сувязі між нашымі дзяржавамі даюць хуткі і важкі эфект. І нашы ўрады мяркуюць пашыраць і паглыбляць у надыходзячым годзе ўзаемавыгадныя кантакты.

Далей пасол пазітыўна ацаніў здаровыя сувязі пасольства з беларускімі арганізацыямі Віленшчыны. Пры спагадных адносінах літоўскіх уладаў наглядаем павелічэнне колькасці факультатываў -- класаў навучання моладзі на роднай мове.

Наталля Голубева напомніла, што ў мінулым годзе вырашаліся не толькі набалелыя праблемы асветы, але ўзмацнялася кансалідацыя, узаемны давер, пашыраліся сувязі з дзеячамі культуры метраполіі. Пры актыўнай дапамозе пасольства адбыўся візіт у Вільню выдатнага празаіка Беларусі -- Васіля Быкава, яго сустрэчы з літаратарамі Летувы і навучэнцамі Віленскай беларускай школы. Адначасна віленчукі віталі таленавітага паэта Рыгора Барадуліна.

Значным тыраж ыдадзена кніга Быкава, як... змясціла некалькі яго аповесцей. Летувіскія дзеячы і літаратары вельмі цёпла прымалі нашага пісьменніка і паэта. Упершыню з "высокай трыбуны" гучала беларуская мова без перакладу на руск І пераноўненая зала з ... вальненнем гэта ўспрыняла: нашу мову ўсе добра разумелі. Дзіва што! Тая ж мова амаль паўтысячы год была дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. На ёй выдаваліся законы і гаварылі пры каралеўскім (князёўскім) двары. Гэтай мовай карысталіся шматтысячныя харугвы абаронных сіл войска.

Складаючы віншаванні і пажаданні ў адрас пасольства і беларускай інтэлігенцыі Віленшчыны, намеснік міністра Г.Дабравольскі падкрэсліў, што яму "приятно услышать знакомую речь" у Вільні і сустрэцца з беларускімі грамадскімі дзеячамі. Практыка паказала, сказаў ён, што беспасрэдныя кантакты з'яўляюцца найлепшым спосабам вырашэння набалелых праблемаў. Трэба спадзявацца, што падобныя сустрэчы стануць у будучыні больш частымі.

Падзяліліся сваімі ўражаннямі і надзеямі на паляпшэнне агульнай сітуацыі ў надыходзячым годзе Валянцін Стэх, Хведар Нюнька, Дуж-Душэўскі, Іван Ломаць (Друскенікі), Пётр Малафей (Салечнікі).

У ажыўленай гутарцы ўдзельнічалі дырэктар Беларускай школы Г.Сівалава, П.Саўчанка, Т.Каротчанкава (Поклад), Міраслава Русак, Нона Якшцене, мастакі Кузьменка і Поклад, саветнік пасольства В.Гейсік, В.Савянкоў, Тамара Вайтовіч, Л.Луцкевіч, Л.Кароль і іншыя.

Гучнымі воплескамі дзякавалі прысутныя за "калядныя" выступленні салістам, дуэту, трыо і квартэту "Сябрыны". Луналі мелодыі народных песень "Люблю наш край", "Ня шукай", "Зорачкі". Як вядома, аўтар апошняй (слоў і музыкі) нядаўна памёрлы паэт С.Новік-Пяюн. Вярнуўшыся з лагера, ён быў рэабілітаваны і дажываў свае гады ў Мінску. З адценнем смутку і жальбы гучала гэта песня. Таксама, як успаміны пра выдатнага дзеяча і навукоўца -- Вацлава Ластоўскага (замучанага ў няволі) і віленскага мастака Пётры Сергіевіча, пахаванага на Росах.

Шчыра і цёпла дзякавалі сябры і госці кіраўніцтву пасольства Рэспублікі Беларусь і дырэкцыі гасцініцы "Гінтарас" за арганізацыю прыемнай і цёплай сустрэчы.

**А.АНІШЧЫК.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### АРГАНІЗУЕЦЦА Ў ПОЛЬШЧЫ

Інстытут усходнеславянскай філалогіі Апольскага універсітэта прыслаў паведамленне, што 24--25 верасня 1996 года ён праводзіць міжнародную навуковую канферэнцыю "Літаратуры і мовы ўсходніх славян сёння". У літаратуразнаўчай секцыі плануецца абмеркаваць праблемы "Змены ў літаратурным жыцці", "Духоўныя і мастацкія пошукі сучасных пісьменнікаў Беларусі, Расіі і Украіны", "Творчасць айчынных і эміграцкіх пісьменнікаў, недастаткова даследаваных, успрынятых тэндэнцыйна і несправядліва забытых". Будуць таксама працаваць лінгвістычная і лінгвадыдактычная секцыі.

Прабыванне на канферэнцыі за кошт Аргкамітэта. Праезд за свой кошт.

Інстытуты гісторыі Варшаўскага і Вільнюскага універсітэтаў, згуртаванне "Польская супольнасць", Агульнапольскі клуб аматараў Літвы і Таварыства сяброў Гродна і Вільнюса 22--23 кастрычніка 1996 года арганізуюць у Варшаве навуковы сімпозіум на тэму "Рэч Паспалітая абодвух народаў: культура, мова, нацыянальная свядомасць -- ад Крэўскай уніі да паўстання 1863 г." Прадбачацца аўтарскія ганарары.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у Міжнародным камітэце беларусістаў **[Мінск, 220050, Рэвалюцыйная, 15]**.

### ПАМЯЦІ СВЯТАРА-МУЧАНІКА

У лістападзе з забыцця было вернута імя ксяндза і філосафа Генрыка Глябовіча. Нарадзіўся ён у 1904 годзе ў Гродне, быў прафесарам Віленскага універсітэта. Загінуў жа 9 лістапада 1941 года ад фашысцкай кулі ў Барысаве, на беразе Бярэзіны.

На памяць пра Генрыка Глябовіча каля барысаўскага касцёла быў устаноўлены і асвячоны дубовы крыж. Надпіс на ім зроблены на трох мовах -- беларускай, літоўскай і польскай. Затым прысутныя перайшлі ў гарадскі Дом школьнікаў, дзе адбылося невялікае пасяджэнне, прысвечанае памяці святара-мучаніка. Прамаўлялі на ім ініцыятар устаноўкі крыжа старшыня Агульнапольскага клуба прыхільнікаў Літвы (у яе гістарычным сэнсе) прафесар Леан Брадоўскі, прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс, сябра МАБ -- вядомы польскі пісьменнік і перакладчык Чэслаў Сэнюх (апошні чытаў вершы беларускіх паэтаў у арыгінале і сваім перакладзе). Усе яны адзначалі, што сёння памяць пра Генрыка Глябовіча яднае тры суседнія народы, да ўзаемаразумення якіх ён заклікаў.

Памяць пра Генрыка Глябовіча была таксама ўшанавана ў Гродне і ў Вільнюскім універсітэце. У Польшчы выдадзены яго невялікі абразок з заклікам прыкласці намаганні, каб увесці пакутніка ў лік святых.

**Лена КАЗЛОВА.**

# СКАЛЬПЕЛЬ І ВІНТОЎКА

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Былы начальнік санслужбы злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці С.Швец, які ўвесь перыяд фашысцкай акупацыі Беларусі правёў у радах народных мсціўцаў, успамінаў: "Умовы работы партызанскіх урачоў былі вельмі цяжкімі, асабліва ў момант акружэння партызан карнымі экспедыцыямі ворага.

Цяжкахворых прыходзілася хаваць на балоце на маленькіх астраўках. Пры іх пакідалі толькі адну санітарку і харчаванне. Так, напрыклад, партызан Пётр Казак з атрада М.Розава з агнястрэльным пераломам бядра быў схаваны на астраўку і знаходзіўся там да таго часу, пакуль партызаны не знішчылі карнікаў.

Востры недахоп адчуваўся ў медыкаментах. Ратавалі людзей, як маглі. Каросту лячылі 60-працэнтным растворам толу на малацэ, сумессю дзёгцю з салам. З крышталічнага ёду рыхтавалі на самагонцы ёдавую настойку. На самагонцы настойвалі таксама корань валяр'яну, кветкі ландышу і выкарыстоўвалі як лякарства пры сардэчных захворваннях. Самагонка замяняла спірт пры апрацоўцы ран, прымянялася як снатворны і абязбольваючы сродак пры аперацыях. У першыя месяцы вайны не было таксама перавязачнага матэрыялу. Часам удавалася захапіць яго пры разгроме фашысцкіх гарнізонаў. Але гэтага было мала. Даводзілася рыхтаваць перав... чныя сродкі з рознага мат... лу, які дасталі ў жыхароў ...ёсак. Часта сяляне самі прыносілі партызанам марлевыя фіранкі з вокнаў, кавалкі палатна. Гэты матэрыял стэрылізаваўся кіпячэннем. У мэтах эканоміі перавязачнага матэр... марлевыя сурвэткі клал... рану, а зверху бінтавалі звычайным сялянскім палатном. Часта ў якасці перавязачных сродкаў ужывалі парашутны матэрыял. Вату дасталі з падушак-амартызатараў, якія скідалі нам самалёты, што дастаўлялі з Вялікай зямлі зброю партызанам.

Вялікія цяжкасці адчувалі партызанскія ўрачы ў набыцці медыцынскіх інструментаў. Для правядзення аперацый іх прыходзілася рабіць саматужным спосабам. Так, напрыклад, для выдалення зубоў ужываліся звычайныя пласкагубцы, для ампутацыі канечнасцей -- звычайная садовая пілка, якую перад гэтым кіпяцілі ў вадзе. Для зашывання ран прымяняліся ніткі з парашутных строп, а часам і звычайныя суровыя ніткі, змочаныя ў самагонцы. Часта аперацыі прыходзілася рабіць у зямлянках пры святле лучыны".

У пачатковы перыяд (другая палова 1941 года -- першая палова 1942 года) многія партызанскія атрады наогул не мелі ў сваім саставе асоб з ліку медыцынскага персаналу. У гэтых умовах асаблівае значэнне набывала дзейнасць медыцынскіх работнікаў-патрыётаў, якія працягвалі выконваць свае прафесійныя абавязкі ў лячэбна-прафілактычных установах на акупіраванай тэрыторыі. У бальніцах раненыя і хворыя партызаны атрымлівалі медыцынскую дапамогу, іх часам шпіталізавалі і лячылі да выздараўлення пад выглядам мірнага насельніцтва. Многія медыцынскія работнікі ў далейшым працягвалі сваю прафесійную дзейнасць у партызанскіх фарміраваннях.

Першыя медпункты ў партызанскіх фарміраваннях узніклі ў сакавіку-красавіку 1942 года. У пачатку 1942 года ў партызанскіх фарміраваннях былі створаны і першыя санітарныя часці і шпіталі.

З ростам колькасці партызан і актывізацыяй іх баявой дзейнасці ўзнікла неабходнасць стварыць партызанскія медыка-санітарныя часці і шпіталі. У пачатку 1943 года Цэнтральны штаб партызанскага руху загадам абавязаў кіраўніцтва ўсіх партызанскіх атрадаў, брыгад і злучэнняў стварыць медыцынскую службу на чале з урачамі. У сакавіку быў арганізаваны санітарны аддзел Беларускага штаба партызанскага руху (начальнік І.Інсараў).

Для стацыянарнага лячэння ствараліся партызаскія шпіталі, якія найчасцей складаліся з хірургічнага, тэрапеўтычнага і інфекцыйнага аддзяленняў. Размяшчаліся яны ў сялянскіх хатах партызанскіх зон, недаступных для ворага лясах, дзе былі пабудаваны дамы, зямлянкі, шалашы, тайнікі. Стацыянары атрадаў мелі 5--7 ложкаў, брыгад -- 12--20, злучэнняў -- каля 100. Ва ўмовах баявых дзеянняў існавалі рухомыя шпіталі, калі хворых вазілі на калёсах ці санях. У многіх шпіталях працавалі вопытныя ўрачы, якія рабілі складаныя аперацыі, аказвалі кваліфікаваную дапамогу ў баявой абстаноўцы.

У залежнасці ад абставін шпіталі разгортваліся ў сялянскіх хатах ці ў шалашах, зямлянках або ў спецыяльных будынках недалёка ад штаба атрада, брыгады ці злучэння. У кастрычніку 1943 года шпіталь Брэсцкага злучэння, напрыклад, мог прыняць 80 чалавек раненых і хворых. Санітарная служба гэтага злучэння налічвала ў 1943 годзе 3 штабныя, 8 брыгадных і 24 атрадныя шпіталі, іх абслугоўвалі 27 урачоў, 19 фельчараў, 2 акушэркі, стаматолаг, зубны тэхнік, 2 фармацэўты, 18 медсясцёр, 8 санінструктараў, санітары.

Асноўнае патрабаванне, якое прад'яўлялася да работы медыцынскіх партызанскіх установ, -- іх вялікая мабільнасць. У летні час у некаторых брыгадах раненыя і хворыя ўтрымліваліся на павозках. У ліпені 1942 года ў Вялешынскім лесе Капыльскага раёна быў арганізаваны рухомы "павозачны" шпіталь брыгады імя К.Варашылава Слуцкай зоны. Хірургічныя аперацыі рабіліся на імправізаваным аперацыйным стале на лясной паляне. Ложкам для раненага служыла павозка з шатром над ёю. У шпіталі працавалі 2 урачы і 9 медыцынскіх сясцёр. Колькасць такіх павозак у шпіталі даходзіла часам да 50--80; зімой 1942--1943 года раненыя размяшчаліся ў сялянскіх хатах.

Хірургічная дапамога раненым аказвалася ў атрадзе, брыгадзе і злучэнні. Пры адсутнасці ўрача ў атрадзе раненыя накіроўваліся ў шпіталь брыгады ці злучэння, адтуль, у залежнасці ад медыцынскіх паказанняў і эвакуацыйных сродкаў, у савецкі тыл. У кожным партызанскім злучэнні быў разгорнуты эвакуацыйны пункт, размешчаны недалёка ад аэрадромнай пляцоўкі. У эвакапункт накіроўваліся раненыя і хворыя, якія падлягалі эвакуацыі на Вялікую зямлю.

Многія атрады і брыгады былі размешчаны далёка ад аэрадромных пляцовак (за 150--180 кіламетраў), і таму эвакуацыя была звязана з вялікімі цяжкасцямі. З прычыны таго, што на шляху руху знаходзіліся гарнізоны праціўніка, раненых заўсёды суправаджала ўзброеная група партызан. З імі ж ішоў і медыцынскі работнік. Часам даводзілася доўга чакаць у эвакапункце прыбыцця самалёта.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**(Заканчэнне будзе).**




Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Здалёк я прыкмеціў агні нейкай вёскі. Да нашых вушэй далятаў сабачы брэх. Кручок спыніўся.

-- Пройдзем праз вёску ці абыдзем навокал?

-- Ці ёсьць там масалкі?

-- Няма... Раней не было...

-- Дык сіганём праз яе.

Неўзабаве перайшлі мост праз нейкую рэчку і пакрочылі па забудаванай з двух бакоў вуліцы, якая была вельмі вузкай і рабіла ладны паўкруг у вялікай вёсцы. Сьнег, што ляжаў на дарозе, быў шэры, амаль чорны, у многіх месцах зьмешаны з балотам.

Крочылі дастаткова хутка. Справа і зьлева ў нізкіх вокнах пахілых хацін, якія прытуліліся каля дарогі, блішчалі невялікія жаўтаватыя агеньчыкі. Праз некалькі крокаў вуліцу перарэзвалі прастакутнікі сьвятла ад вокнаў. Дзе-нідзе на падворках гучалі людскія галасы. Пераважна набрынялыя, узбуджаныя злосьцю. У асноўным чуліся кленічы.

У пэўным месцы Кручок падышоў да плота і вырваў адтуль кол. Мусіць, таму зрабіў гэта, што наперадзе заўзята брахалі сабакі. Каро ўжо ня бег уперад, а трымаўся побач. Прайшлі яшчэ некалькі хат. На сярэдзіне вёскі акружылі нас сабакі і, кідаючыся пад ногі, пачалі ўядаць. Кручок ударамі кала разагнаў іх, і тыя, зацята брэшучы, беглі на адлегласьці за намі. Каро спакойна трымаўся наперадзе. Тады з брамы нейкага двара паказаліся дзьве постаці. Калі ж мы падышлі бліжэй, нас асьвяціў кішэнны ліхтарык. Прагучаў голас:

-- А вы куды?

-- Цябе гэта не датычыць! -- адказаў Кручок.

-- Я сакратар "Волисполкома".*

-- Вось і добра. Ідзі да свайго Волисполкома і кладзіся спаць, бо ты п'яны.

-- Што-о?

-- Нічога. Сыдзі з дарогі!

Кручок хацеў прайсьці міма, але сакратар схапіў яго за левую руку. У той жа момант Кручок агрэў таго палкай, а Каро кінуўся да сакратаровага горла. Другі мужчына хацеў уцячы, але я падставіў нагу, і ён пакаціўся ў балота. Кручок дабавіў ім калом. Вуліца ажыла крыкамі. Здалёк даляталі галасы людзей. Пакінуўшы на зямлі тых двух, мы, сьпяшаючыся, рушылі далей, а яны пачалі крычаць:

-- Трымайце іх! Трымайце!

-- Зладзеі! Бандыты! Трымайце!

У цемры гучалі крыкі людзей, якія беглі ў наш бок. Пасьвяціўшы ліхтарыкам, я ўбачыў больш дзесятка мужыкоў з каламі: яны гналіся за намі.

-- Ану, пальні пару разоў, каб пачулі! -- вымавіў Кручок.

Я выстраліў некалькі разоў угару. Данёсься яшчэ мацнейшы тупат ног, аднак зараз ён не набліжаўся, а хутка ўсё больш аддаляўся.

-- Навыперадкі панесьліся! -- прамовіў Кручок.

Мы, сьпяшаючыся, пакрочылі далей. За вёскай збочылі з дарогі і палямі накіраваліся ўперад. Кручок лічыў, што сакратар "Волисполкома" пазвоніць у наступную вёску, якая ляжала ля тракта і дзе расквартараваўся "заградительный отряд". Там маглі б наляцець на засаду ці аблаву.

Зноў пачалася цяжкая бясконцая дарога палямі. Асабліва дрэнна было ісьці ворывам, замёрзлую яшчэ зьверху зямлю пакрывала ледзяная абалонка, на якой нага не магла адшукаць надзейнай апоры. Праз значны кавалак часу ўсё ж мы ўзьбіліся на дарогу і па ёй прайшлі каля пяці кіламетраў. Потым, зьвярнуўшы направа, палямі дабраліся да лесу.

Каля чацьвёртай гадзіны ўранку наблізіліся да адзінокага хутара. Кручок пусьціў сабаку наперад, і мы паціху пачалі сунуцца ў кірунку будынкаў. Нішто не сьведчыла пра наяўнасьць чужых людзей. З рэвальверамі ў руках падкраліся да вакна, якое выходзіла на дарогу і не было зачынена ваканіцамі. Кручок пасьвяціў туды ліхтарыкам. Паміж белай фіранкай і рамамі я ўбачыў вазон герані -- знак таго, што на хутары ўсё ў парадку і нікога няма.

Кручок пастукаў у шыбу. Доўга ніхто не адгукаўся. Калі ж праз некалькі хвілін ён пачаў настойліва ляпаць, зь сярэдзіны даляцеў жаночы голас:

-- Чаго трэба? Хто там?

-- Адчыняй, Стася, -- прамовіў у адказ Кручок.

-- Чакай! Ужо!

-- Можаш не апранацца, і так цябе пазнаю!

-- Разумнік! -- даляцеў праз шыбіны голас.

Праз хвіліну адсунулі ўбок фіранку, а з падваконніка знялі вазон. Кручок спрытна ўскочыў на тое месца і праз вакно залез у хату. Я зрабіў па яго прыду. Хлопец паклікаў сабаку. Каро таксама праз вакно ўскочыў у сярэдзіну памяшканьня. Гэта была кухня. Нейкі час мы стаялі ў цемры. Стася выбегла з хаты і зачыніла ваканіцу. Пры неабходнасьці можна было адамкнуць зь сярэдзіны. Стоячы ў змроку, нёдзе злева чую шэпт.

-- Гэнюся не сьпіць? -- вымавіў Кручок. -- Можа, прыме мяне на печ, пагрэцца?.. На цёпленькія ножкі?..

-- Ах ты, лайдак! Лезь сюды, зраблю табе цёплыя вушы. Бач ты, чаго яму захацелася... А малака!

Чую сьмех. Вяртаецца Стася і запальвае падвешаную над сталом лямпу. Левы бок кухні займае вялікая печ. З-пад завешанай угары доўгай узорыстай фіранкі пакрыёма зіркаюць нечыя цікаўныя вочы.

Здымаем зь сябе курткі, а пасьля перавязы. Вымаем зь кішэняў чатыры пляшкі сьпірытусу. Адчыняюцца дзьверы, і на кухню, заплюшчваючы ад сьвятла вочы і пачэсваючы клубы, заходзіць высокая мажная кабета гадоў 45. На ёй шырокі ружовага колеру халат і чаравікі на босую нагу. Гэта гаспадыня хутара -- Мар'яна Зых -- матка шасьці дачок. На хутары не было мужчын, калі не лічыць дурнаватага парабка Ануфрыя, які быў аднаго ўзросту з гаспадыняй і ўжо больш дзесяці гадоў жыў тут. Яго трымалі як конюха і для вывазу зь лесу дроў. Астатнюю працу па гаспадарцы рабілі ўласнымі сіламі, як казаў Кручок, "бабскай брыгадай". Зрэшты, гаспадарка была малая, і жанчыны даволі лёгка спраўляліся зь ёй... Маці Кручка была далёкай сваячкай Мар'яны, пра што і казала: "сёмая вада на кісялі".

Мар'яна Зых трымала пункт, які знаходзіўся паміж Новым Дваром і Пятроўшчынай, на паўднёвым захадзе ад Мінска. У горадзе спецыяльныя пасрэднікі шукалі людзей, якія б жадалі нелегальна перабрацца з Саветаў у Польшчу, і за добрую плату прыводзілі на пункт да Мар'яны, а адсюль Кручок перакідваў іх праз кардон. Ужо трэці год ён пасьпяхова займаўся гэтым, адначасова носячы кантрабанду.

Распакавалі перавязы, і Мар'яна разам са Стасяй -- старэйшай дачкой -- палічыла і запісала тавар. Пасьля пачала разьлічвацца з Кручком (і рабілася гэта на вока). За ўвесь тавар Кручок атрымаў 370 даляраў. Даў мне 20 за дарогу.

Затым Стася і Мар'яна падрыхтавалі нам сьнаданьне. А пасьля яды гаспадыня прамовіла:

-- Ну, хлопцы, ідзіце на гарышча, перасьпіце!

-- Яшчэ чаго? -- адгукнуўся Кручок. -- На гарышча? А я хачу на печ!..

Ён скокнуў на прыпечак, а адтуль даў нырца пад занавеску. Пачуліся крыкі, піск, сьмех.

-- А пойдзеш адсюль!

-- Ты бессаромнік!

-- Наладзім лазьню!

Неўзабаве Кручок, сустрэты кулакамі, сігануў зь печы на падлогу. Пасьля мы ўзялі два доўгія кажухі і разам з Мар'янай і Стасяй, якая несла лямпу, падаліся ў сенцы, дзе стаяла драбіна, што вяла на гарышча. Кручок узьлез наверх і паклікаў сабаку, Каро пачаў спрытна ісьці па драбіне. Калі ўсе залезьлі на падстрэшак, Мар'яна прамовіла:

-- Ліхтарыкам там не сьвяціць і агню ня кідаць.

-- Добра, добра, -- адказаў Кручок.

Палову гарышча займалі высока складзеныя снапы. Кручок выняў збоку некалькі снапоў і загадаў мне залазіць у нару. За мной пайшоў Каро. Тады Кручок адцягнуў снапы назад у праход і замаскіраваў выйсьце зь сярэдзіны. Звонку яму дапамагала Стася, якая ўзьлезла на гарышча разам з намі. Пазьней мы папаўзьлі па вузкай нары ў канец падстрэшша. Там было прасторней і магло схавацца зь дзесятак людзей. Малое акенца, якое выходзіла на дах, было занавешана рэшткамі чорнай ваўнянай хусткі. У выпадку небясьпекі і туды можна было ўцячы.

Зрабілі сабе прыдатную пасьцель і хутка паснулі.

Надыходзіў вечар. У прысутнасьці Мар'яны, якая апранула на сябе доўгі жоўты кажух, а на ногі юхтовыя з доўгімі халявамі боты, я і Кручок накіраваліся да блізкага лесу. У руках Мар'яна трымала доўгі кій і абапіралася на яго ў дарозе. Каро бег наперадзе.

-- Колькі іх? -- запытаў Кручок.

-- Пяцёх, -- адказала Мар'яна.

-- Хто такія?

-- Ня ведаю... Я дакументаў не пытаю. Але нейкія не надзейныя. Ты глядзі там!

-- Чаму не надзейныя?

-- Ну, бо выхаваныя! А да мяне ўсё: калі ласка, пані, гэта, пані, тое... Напэўна, якія-небудзь нігілісты альбо іншыя інтэлігенты...

Крочылі лесам. У нейкім месцы з-за дрэў паказалася малая хацінка. Адтуль выйшаў сівенькі стары дзядок. Нягледзячы на ўзрост, быў вельмі рухавы і, размаўляючы з Кручком і Мар'янай, жвава махаў рукамі.

-- Ну, Грыбок, як там у цябе, усё ў парадку?

-- А, усё, усё... Як заўжды...

-- Занёс ім ежу?

-- А як жа! А як жа!

-- Ну, дык пайшлі!

Заглыбіліся ў гушчар. Праз некалькі хвілін дарогі я ўбычыў стрэшку зямлянкі. Сьпераду былі малыя дзьверцы, замкнутыя заржавелым замком у форме агурка. Грыбок, не падыходзячы да іх і абышоўшы навокал страху, выняў зь яе задняй часткі некалькі дошак. Пасьля, нахіліўшыся ўніз, прамовіў:

-- Вылазьце! Зараз пойдзеце ў дарогу!

Наверх пачалі высоўвацца нейкія людзі. Апрануты былі па-рознаму, аднак, зірнуўшы на твары, я заўважыў ва ўсіх аднолькавы выраз, які цяжка акрэсьліць, але ў ім месьціліся: увага дасьледчыка, халодны позірк баксёра, дзіцячая прастата, цікавасьць зьдзіўленага чалавека, які ўбачыў перад сабой людзей, у [illegible] рукі аддаваў свой лёс, сва[illegible]дзею, і, нарэшце, нейкі ц[illegible]і смутак захоўвалі яны на сваіх спакойных рашучых тварах. Былі апрануты ў паношаныя курткі і паліто, двое ў ботах, трое -- у чаравіках. Адзін на галаве меў салдацкую шапку "ячменная каша", другі -- вя[illegible]р мехавую з навушнікам, д[illegible] насілі "керанкі", пяты быў уладальнікам вялікай чорнай папахі. Такое адзеньне не падыходзіла ім. Адчуў гэта адразу. Выглядалі вайскоўцамі або спартсменамі, апранутымі ў рызьзё. Іх рухі былі дакладныя і зграбныя. Постаці выпрастаныя. Калі вылезьлі са склепа, адзін зь іх прывітаў Мар'яну:

-- Наша ўшанаваньне, пані! Сёньня выходзім у дарогу?

-- Так. Гэтыя двое, -- кабета рухам галавы паказала ў наш бок, -- перавядуць усіх праз граніцу і здадуць на пункт.

Усе зь цікавасьцю пагдядалі на нас. З вачэй прамянілася радасьць і недавер. Напэўна, іх зьдзіўляла, што бачаць перад сабой двух маладых хлопцаў. Мусіць, сваіх праваднікоў уяўлялі ў выглядзе магутных страшных здаравякоў.

Зьмяркалася. Мы павольна крочылі па вузкай лясной сьцяжынцы. Кручок быў першым, "фігуркі" ішлі за ім, я замыкаў паход. У лесе сьнег лепш затрымаўся, чым на палях; калі зьбіваліся са сьцежкі, ён са скрыгатам ламаўся пад нагамі. Тады адшуквалі сьцежку, якая хутка прывяла нас да ўскраіны лесу, ля якога ўдалеч бегла шырокая, наезджаная санямі дарога.

Вечар быў цёмны і досыць цёплы. У паветры адчуваліся подыхі надыходзячай вясны. Па лесе разьляталіся нейкія дзіўныя пошумы. То трашчала гальлё дрэў, то з высокіх ствалоў валіліся ўніз абледзянелыя камякі сьнегу, то рвалася і сьціскалася ад вячэрняга холаду ледзяное шкарлупіньне, якім пакрываліся сьнежныя астраўкі.

Кручок затрымаўся, выняў з кішэні бутэльку сьпірту. Стукнуў даланёй аб дно і, выбіўшы корак, закінуў назад галаву, пачаў піць проста з рыльца. Прыкмеціў на тварах людзей усьмешкі. Іх зьдзівіла, што такі малец -- ды так п'е. Кручок адарваўся ад пляшкі і падаў мне:

-- Трымай!.. Смакчы... і перадай далей!

Я таксама крыху адпіў сьпірту, а пасьля, аддаючы пляшку "фігуркам", прамовіў:

-- Піце па чарзе... Каб разагрэцца!..

Яны, няўмела лыкаючы, пачалі піць сьпірт. Амаль усе задыхаліся і адкашліваліся. Упяцёх ледзь асілілі палову бутэлькі. Разам з Кручком мы дапілі рэшту сьпірту. Пасьля сябра вымавіў:

-- Хто жадае, можа закурыць... Далей курыць нельга...

Усе закурылі.

-- Ці далёка да граніцы? -- запыталася мяне адна з "фігурак".

-- Далёка.

-- Ці моцна ахоўваецца?

-- Не... Хаця гэта залежыць... для каго як... Перайсьці заўжды можна.

У Кручка яны таксама распытвалі пра розныя рэчы, і ён без вялікага жаданьня адказваў: звычайна цяжка дакладна растлумачыць людзям, якія ў гэтых справах не зарыентаваныя, і таму задаюць такія недарэчныя пытаньні.

Пасьля кароткага адпачынку вырушылі ў далейшы шлях. Доўга цягнуліся палямі, якія дзе-нідзе былі поўнасьцю агаленыя ад сьнегу. Неўзабаве апынуліся на беразе Пцічы. Па краях рэчка была закутая лёдам, а сярэдзінай неслася бурлівая плынь. Трымаючыся левага берагу, мы крочылі ў напрамку Новага Двара. Ісьці было цяжка. Ногі грузьлі ў тугім, набрынялым вадой сьнезе. Нарэшце перад сабой убачылі невыразныя абрысы моста. Кручок спыніўся і доўга прыслухоўваўся. Потым падаўся далей. Мы ішлі за ім.

Пакрочылі даволі хутка і дабраліся да моста. Пад нагамі глуха дуднелі замерзлыя дошкі. Унізе шумелі, пераліваліся хвалі. Не чакаючы нічога дрэннага, я павольна ішоў за групай. Раптоўна наперадзе ў цемры блiснуў карабінавы агеньчык і бухнуў стрэл. "Фігуркі" спыніліся. Выхапіўшы з кішэні парабел і зьняўшы забесьпячальнік, я кінуўся наперад. Блiснуў ліхтарыкам. Убачыў Кручка, які левай рукой трымаўся за рулю карабіна, а правай накіроўваў наган у грудзі чырвонаармейца. Спачатку ня мог іх добра разглядзець, бо чырвонаармеец ляжаў на зямлі, а сабака прытрымліваў яго лапамі і пысай. Пачуў голас Кручка:

-- Каро, прэч! Пусьці яго!

Сабака адскочыў убок і стаяў нерухома, гатовы ў кожную хвіліну кінуцца зноў. Салдат выпусьціў з рук карабін, і Кручок адкінуў яго да ракі. Пачуўся пляскат вады.

-- Устань! -- загадаў Кручок.

А калі салдат устаў, Кручок вылаяўся і прамовіў:

-- Што ж гэта вас так вучаць: спачатку страляць, а пасьля крычаць "стой"!

-- Мяне, таварыш, сабака напалохаў. Падумаў -- воўк!

-- Ня трэба лепшага ваўка, чым ты, чалавеча!.. Дулічы ведаеш?

-- Ведаю.

-- Далёка адсюль?

-- Восем вёрст.

-- Дарогу добра ведаеш?

-- А як жа!

-- Ну, дык завядзі нас туды. Толькі глядзі: зробіш крок убок, каб уцячы, -- пальну ў лоб! І сабака цябе схопіць!..

-- Ня буду ўцякаць... Завяду вас туды, куды хочаце!..

Пасунуліся далей. Першым ішоў салдат, за ім Кручок, "фігуркі" і, нарэшце, я. Крочылі па вузкіх, ледзьве азначаных на сьнезе палявых дарогах і сьцежках. Чырвонаармеец, відавочна, вёў нас так, каб пазьбегнуць непажаданых сустрэч. Баяўся, што тады застрэлім яго.

Праз гадзіны паўтары маршу палямі мы ўбачылі зьлева лес, а справа -- агеньчыкі ў вокнах хацін. Гэта былі Дулічы. Тут Кручок загадаў салдату крочыць перада мной, а сам павёў усіх далей. Я ўважліва сачыў за шэрай постацьцю салдата.

* Волостной исполнительный комитет. (Гэтая заўвага перакладзена аўтарам і на польскую мову. -- **Перакладчык**).

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—3.**

# ДЫНАСТЫЯ ГЕНЕРАЛАВЫХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Анатоль Генералаў стварыў запамінальныя вобразы князя Ігара, Дэмана, Рыгалета, Аманасра, Яга, Жэрмена, Скарпія і многіх іншых, часта выступаў з канцэртнымі праграмамі, пабываў на гастролях у многіх краінах.

Ужо ў тыя гады актыўнай творчай дзейнасці ён пачаў выкладаць сольныя спевы ў беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. І каля 20 гадоў навучае студэнтаў, стаў прафесарам кафедры вакалу. Многія вучні Анатоля Генералава сталі лаўрэатамі і дыпламантамі міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, вядучымі майстрамі сцэны ў беларускім оперным і ў тэатры аперэты (А.Гардынец, М.Грыгорчык і інш.), выступаюць у тэатрах блізкага і далёкага замежжа. Як раней свой дар Анатоль Генералаў аддаваў志 опернай сцэне, так цяпер дзеліцца сваімі ведамі, вопытам з моладдзю. У гэтым можна было пераканацца, прысутнічаючы на многіх канцэртах і вечарынах, на якіх настаўнік прадстаўляў, знаёміў публіку са сваімі вучнямі. Адчувалася, што ён зацікаўлены не толькі голасам таго або іншага маладога спевака, але і ўсім яго жыццём, ведае і адчувае душэўныя якасці, адказвае не толькі за тое, чаму навучае прафесійна, але і за нялёгкі побыт студэнтаў. Няма аднолькавых вучняў, і няма ў Анатоля Міхайлавіча аднолькава-стандартных адносін да іх. Да кожнага ён ставіцца з павагай, знаходзіць індывідуальны падыход. Гэта якраз тое адзінства творча-прафесійных і духоўна-чалавечых якасцей Настаўніка, што так неабходна перадаць сёння маладому пакаленню, якому даводзіцца сталець у супярэчлівы час бязвер'я, нігілізму, бездухоўнасці.

Нязменнай спадарожніцай, памочнікам і дарадцам Анатоля Генералава на працягу ўсяго творчага шляху была і ёсць ягоная жонка Ніна Аляксандраўна, глыбокі знаўца опернай класікі, таленавітая піяністка і настаўнік многіх пакаленняў оперных спевакоў, якія разам з ёю рыхтавалі свае партыі да чарговых спектакляў. Без такіх працавітых "нябачных" гледачу музыкантаў, вялікіх спецыялістаў і майстроў сваёй справы, без многіх рэпетыцый з імі не можа адбыцца опернае дзейства на сцэне. Заняткі з Нінай Аляксандраўнай у класе для кожнага саліста оперы -- выдатная і неабходная школа вывучэння і ўдасканалення тэксту, музыкі, гука, таго нязмушанага, прыгожага і свабоднага валодання артыстам сабою і характарам свайго героя на сцэне, якое так захапляе гледача. А між іншым, за гэтым глыбока праўдзівым пераўвасабленнем артыста, "уваходжаннем яго ў ролю", за якімі не адчуваецца ігры, а бачыцца само жыццё, што і выклікае суперажыванне, захапленне гледача такім умоўна-рэальным жанрам мастацтва, якім з'яўляецца опера, стаіць не толькі талент спевака, але і яго вялікая супольная праца з канцэртмайстрам. Ніна Аляксандраўна, заўсёды памяркоўная, добразычлівая, для многіх оперных артыстаў была мудрай феяй, якая выводзіла іх на сцэну. Трапіць да яе на ўрок было даволі складана, дзень быў распісаны літаральна па гадзінах. Колькі карыснага, патрэбнага, цікавага магла падказаць яна, вопытны, прафесійны канцэртмайстар, кожнаму артыст[illegible] хто займаўся ў яе класе. Сёння цяжк[illegible]т сказаць, у якім вялікім мностве канцэртаў прымала яна ўдзел як нязменны акампаніятар пры выкананні спевакамі папулярных арый з класічных опер.



**Народны артыст Беларусі Анатоль ГЕНЕРАЛАЎ у оперы Дж. Вердзі "Трубадур".**

Шмат дапамагала канцэртмайстар Ніна Ражнова і малодшаму брату свайго мужа У[illegible]міру Генералаву. Анатоль і Уладзім[illegible]р Генералавы, дарэчы, вучыліся ў аднаго славутага педагога ў інстытуце Гнесіных (які скончыла і Ніна Аляксандраўна) -- прафесара Адана. Гэты музычны, спеўны дар братоў Генералавых праявіўся даволі рана. Аднак Уладзімір Генералаў прыйшоў у беларускую оперу на некалькі гадоў пазней за свайго брата і больш складаным шляхам. Да гэтага ён паспеў папрацаваць на мэблева-музычнай фабрыцы сталяром-чырваннадрэўшчыкам, паслужыць у арміі, дзе прымаў удзел у мастацкай самадзейнасці. Яго моцны, прыгожы барытон адразу прыцягнуў увагу сяброў, якія раілі пайсці вучыцца. Але толькі аўтарытэт брата, які ўжо працаваў у Мінску, прымусіў праслухацца ў прафесара Адана.



**Ніна РАЖНОВА з артыстамі З.БАБІЕМ і В.ЧАРНАБАЕВЫМ. 1964 год.**

Меркаванне прафесара было катэгарычным і адназначным: з такім голасам трэба вучыцца вакалу. Уладзіміра адразу залічылі ў музыкальнае вучылішча. Але ж ён знаходзіўся на вайсковай службе. Талент быў такі відавочны і магутны, што кіраўніцтва вучылішча імя Гнесіных накіравала абгрунтаваную просьбу міністру абароны аб датэрміновай дэмабілізацыі салдата. І персанальным загадам міністра Уладзімір Генералаў быў адпушчаны на вучобу. Скончыўшы музычнае вучылішча, ён паступіў у інстытут імя Гнесіных, у клас прафесара Адана. Вучыўся ён, дарэчы, з многімі славутымі цяпер спевакамі, жыў, да прыкладу, у адным інтэрнацкім пакоі з Іосіфам Кабзонам. І ўжо студэнтам Уладзімір Генералаў пачаў працаваць у акадэмічным музычным тэатры імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі ў якасці саліста. Аднак яго цягнула да родных. У Мінску працаваў старэйшы брат, жыла маці, якая цяпер пахавана на Паўночных могілках. І ён пакінуў Маскву, пераехаў у Мінск і па конкурсу прайшоў салістам у Беларускі акадэмічны тэатр оперы і балета. Так браты Генералавы сталі працаваць разам.

Валодаючы аднолькавымі галасамі, выконваючы адзін і той жа рэпертуар, яны былі пазбаўлены пачуцця саперніцтва, цёпла і сардэчна ставіліся адзін да аднаго. Старэйшы дапамагаў малодшаму бацькоўскімі парадамі і клопатамі (дарэчы, іх бацька загінуў на вайне, як і бацька Ірыны Шыкуновай, абараняючы Маскву), падтрымліваў у хвіліны сумненняў, а Ніна Аляксандраўна была памочніцай, настаўніцай ім абодвум. Разам рыхтавалі партыі з беларускіх, рускіх, заходнееўрапейскіх опер, якія яны спявалі, удала дапаўняючы і замяняючы адзін аднаго.

Пачынаў Уладзімір Генералаў на сцэне беларускага опе[illegible]а з "Кармэн" Ж.Бізэ, потым ув[illegible]шоў у спектаклі "Брэсцкая крэпасць", "Канстанцін Заслонаў" М.Аладава, спяваў і цяпер спявае ў операх "Сельскі гонар" П.Масканы, "Міндзія" А.Тактакішвілі, "Князь Ігар" А.Барадзіна, "Казкі [illegible]мана" Ж.Афенбаха, "Рыгалета" Д[illegible]рдзі, "Чыо-Чыо-сан" Дж.Пучыні, Залаты пеўнік" М.Рымскага-Корсакава, "Іаланта" П.Чайкоўскага, многіх іншых спектаклях. Ён нязменны ўдзельнік і дасканалы выканаўца партый на беларускай мове ў беларускіх операх: "Сцежкай жыцця" Г.Вагнера, "Новая зямля" Ю.Семянякі, "Сівая легенда" Д.Смольскага, "Дзікае паляванне караля Стаха" У.Солтана, "Князь Наваградскі" Бандарэнкі, цудоўны, зразумелы і цікавы персанаж ва ўспрыманні дзяцей у операх "Церам-церамок" ,"Воўк і сямёра казлянят" на дзіцячых спектаклях.

Сыграна шмат роляў. Таленавітым спеваком і акцёрам створаны незабыўныя вобразы галоўных і другарадных оперных герояў. Гэта людзі самых розных характараў і лёсаў. Але, калі слухаеш Уладзіміра Генералава на сцэне, то адчуваеш, як па-майстэрску ён уваходзіць у вобраз і перадае яго сутнасць. А калі артыст стварае блізкі яму па духу чалавечы характар, то становіцца асабліва пераканаўчым і дакладным. У гэтым, можна сказаць, ён паслядоўнік і свайго брата, і лепшых спевакоў з сусветнымі імёнамі. Аднак у традыцыйнае выкананне оперных партый Уладзімір Генералаў прыўносіць многае ад свайго змястоўнага ўнутранага свету, свайго разумення жыцця і праўды мастацтва. Свой неацэнны дар ён умее ўвасобіць у рэальны, выдатны вынік -- артыст спявае і паводзіць сябе на сцэне гэтак жа нязмушана, натуральна, свабодна, як у звычайным жыцці. Але за гэтым -- высокі прафесіяналізм, вялікі творчы вопыт, агромністая паўсядзённая праца, любоў і сумленныя адносіны да тэатра. Уладзімір Генералаў -- гэта якраз той рэдкі выпадак, калі акцёр любіць не сябе ў мастацтве, а мастацтва ў сабе. Ён самаахвярна служыць беларускаму тэатру, як і наогул людзям, не патрабуючы нічога ўзамен. І людзі адплачваюць яму шчырай любоўю і павагай. Гэта чалавек з добрым, цярплівым характарам, залатымі рукамі, выдатны сем'янін, муж і бацька, здольны ўзяць на сябе ўсе абавязкі нашага цяжкага побыту.

У Генералава-малодшага, як і ў Генералава-старэйшага -- музыкальная сям'я. Мусіць у гэтым найбольш прыкметна (хоць у сям'і!) тое шчасліва-гарманічнае спалучэнне, якое абумоўлена адзінствам інтарэсаў і поглядаў, узаемаразумення і ўзаемапавагі паміж усімі яе членамі.

Жонка Уладзіміра Генералава -- Ірына Шыкунова -- таксама чалавек творчы. Яна вядучая салістка тэатра оперы і балета (нядаўна перайшла на выкладчыцкую працу ў Акадэмію музыкі).

Ірына Шыкунова -- гэта цэлая эпоха ў развіцці беларускага опернага мастацтва. Яна паходзіць з сям'і карэнных беларусаў: маці яе з Полаччыны, бацька са Случчыны. Яны сустрэліся і пажаніліся ў той самай Камуне, героі і справы якой былі ўслаўлены Янкам Купалам у паэме "Над ракой Арэсай". Вось у гэтай вёсцы,



**Уладзімір ГЕНЕРАЛАЎ у ролі князя Ігара ў аднайменнай оперы А.БАРАДЗІНА.**

што знаходзіцца сярод Марыінскіх балот Палесся, і нарадзілася Ірына. І ці не ад таленавітых людзей палескай вёскі, маці і бацькі, якія цудоўна спявалі, перайшоў у спадчыну музычны дар маладой дзяўчыне, якая з дзіцячых гадоў адчувала і захаплялася спевамі і музыкай? Можа і дасюль у яе душы гучаць галасы вяскоўцаў, якія не стамляліся спяваць, ідучы вечарам з цяжкай працы.

У беларускую кансерваторыю Ірыну прынялі без усялякіх экзаменаў на падрыхтоўчае аддзяленне, выкладчыкі толькі праслухалі некалькі песень у яе выкананні. Пасля заканчэння кансерваторыі яна адразу была накіравана ў беларускі оперны тэатр і з таго часу вяла ўсе асноўныя партыі беларускага і сусветнага опернага рэпертуару. Маладую, таленавітую і прыгожую салістку паслалі ў Італію па стыпендыі ЮНЕСКА, у Міланскі тэатр Ла Скала, дзе яна праходзіла стажыроўку разам з Ірынай Багачовай, цяпер народнай артысткай Расіі, салісткай Пецярбургскай оперы, і Булатам Менжалкіевым, цяпер народным артыстам Кіргізіі. Потым пабывала на гастролях у Фінляндыі, Германіі, Польшчы, Балгарыі, спявала па запрашэнню ў многіх тэатрах былога Саюза. Яе творчы набытак -- звыш 30 вядучых оперных партый, лепшыя з якіх -- Таццяна ("Яўгеній Анегін" П.Чайкоўскага), Мімі ("Багема" Дж. Пучыні), Маргарыта ("Фаўст" Ш.Гуно), Дэздэмона ("Атэла" Дж. Вердзі), Яраслаўна ("Князь Ігар" А.Барадзіна) і многія іншыя. Яна не толькі таленавітая спявачка, але і выдатная драматычная актрыса, якая арганічна ўваходзіла ў вобразы, лёсы сваіх гераінь, доўга пасля спектакля жыла іх пачуццямі.

Ірына Шыкунова глыбей за іншых адчувала боль і складаныя лёсы многіх гераінь -- беларускіх жанчын, даносіла іх душэўныя перажыванні да публікі надзвычай пераканаўча, эмацыянальна-драматычна, што нікога ў зале не пакідала абыякавым. І менавіта за выкананне партыі Ірыны ў оперы "Сівая легенда" (лібрэта У.Караткевіча, музыка



Ірына ШЫКУНОВА з дачкой Вольгай. 1976 год.

Д.Смольскага) Ірыне Шыкуновай была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі. Яна нязменная выканаўца шматлікіх твораў беларускіх кампазітараў у галіне камерных спеваў (А.Багатыроў, Я.Цікоцкі, Д.Лукас, Ю.Семяняка і інш., з запісамі на тэлебачанні), яе цудоўны, глыбока кранальны голас часта гучыць па беларускаму радыё, запісаны на кружэлкі і касеты. Яна выконвала галоўныя ролі ў тэлеоперах "Ранак" Г.Вагнера, "У пушчах Палесся" А.Багатырова. У канцэртах ёй акампаніравалі ТамараМіянсарава, Ніна Ражнова, яе спектаклямі дырыжыравалі Таццяна Каламійцава, Яраслаў Вашчак, Аляксандр Анісімаў, партнёрамі Ірыны Шыкуновай у спектаклях яшчэ на узыходзе яе опернай кар'еры былі Н.Ткачэнка, Т.Шымко, Т.Ніжнікава, Л.Галушкіна, З.Бабій, А.Саучанка, В.Чарнабаеў, А.Генералаў. І часта здаралася, што Ірыне Шыкуновай і Уладзіміру Генералаву даводзілася спяваць вядучыя жаночыя і мужчынскія партыі ў адных і тых жа операх -- яе лірыка-драматычнае сапрана і яго драматычны барытон зліваліся, вялі слухача ў казачны свет характва, кахання, вернасці, і мала хто ведаў, што гэтыя прыгожыя, таленавітыя артысты, выдатныя спевакі -- муж і жонка на самай справе.

Слухаючы іх цудоўныя галасы, якія ўзвышалі і цешылі душу, думала -- якія трэба мець працаздольнасць, цярпенне і мужнасць, каб элементарна вывучыць хоць бы адну арыю, а не толькі запомніць, праспяваць і сыграць (ды яшчэ як!) увесь спектакль, мець такі моцны голас, каб яго за аркестрам было чуваць ва ўсіх кутках агромністай залы? Звычайнаму чалавеку проста не дадзена гэта зразумець, і толькі ім, па другі бок рампы, вядома, колькі каштуе гэта прыгажосць, лёгкасць, вывучанасць, свабода артыста, яго жыццё на сцэне. І горка, і крыўдна ўсведамляць, што нашы артысты з'яўляюцца дзеячамі культуры, якая стаіць у самым нізе табеля аб рангах, таму і аплачваюцца адпаведна -- па-жабрацку. Чаму ж дзяржава так не цэніць свой залаты духоўны скарб, выдатныя таленты мастацтва? І толькі бескарыслівым энтузіязмам можна вытлумачыць святую самааддачу таленавітых людзей сваёй прафесіі і Радзіме.

І чым, як не самаахвярнасцю, можна вытлумачыць іх клопат пра тое, каб паранейшаму бруіла крыніца талентаў на Беларусі, каб адбывалася пераемнасць, жыло творчае натхненне?!

Ірына Шыкунова і Уладзімір Генералаў, якія надзялілі сваім дарам дачку, скіравалі і яе сваім шляхам. Вольга Генералава, можна сказаць, вырасла на опернай сцэне. Бацькі не мелі магчымасці трымаць няньку і вымушаны былі браць маленькую дачку з сабой на рэпетыцыі, нават на летнія гастролі. Яна так і расла ў тэатры. Калі Генералавы рэпеціравалі, за Волечкай наглядалі вольныя ад заняткаў калегі. І часта (па ўспамінах бацькоў) дзіця дома пачынала спяваць урыўкі з пачутых опер. Так і выхоўвалася яна з музыкай і арыямі. Скончыла музычнае вучылішча імя Глінкі і цяпер вучыцца на 3 курсе Акадэміі музыкі ў класе сваёй маці Ірыны Шыкуновай, якая таксама, як і Анатоль Генералаў, вядзе клас жаночага вакалу.

Вольга пераняла ад сваіх родных іх музычныя, артыстычныя гены. Яна валодае прыгожым лірыка-драматычным сапрана, і адчуваецца, што пры сваім прыроджаным таленце Вольга ўдумліва глядзіць на жыццё і разумее, як многа ёй яшчэ трэба працаваць, вучыцца, удасканальвацца ў такім складаным мастацтве, якім з'яўляецца опера. Аднак яна ўжо выступае ў студэнцкіх канцэртах, выконвае класічныя арыі з опер, якія так цудоўна спявае яе маці. Роўнасць і мяккасць голасу, чароўнае "piano", свабодны верхні рэгістр -- гэтыя ўласцівасці голасу Вольгі ў спалучэнні з артыстычнай знешнасцю выклікаюць пачуццё гонару, што нараджаюцца на Беларусі такія таленты, прыгажуні, бо жаночая краса ў спалучэнні са спеўным дарам, як і музыка, карціна, цікавая кніга, -- той жа твор мастацтва.

Вольга вызначылася ўжо і ў асабістым жыцці. У класе прафесара Анатоля Генералава займаецца яе муж -- Сяргей Гінтаўт. Ён дасканала валодае англійскай мовай, віртуозна іграе на гітары, двойчы



Вольга ГЕНЕРАЛАВА і Сяргей ГІНТАЎТ.

лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу гітарыстаў. Але самае галоўнае -- Сяргей мае цудоўны, магутны голас -- драматычны тэнар поўнага дыяпазону, прыгожага гучання з барытонавай афарбоўкай. Ён таксама часта выступае ў студэнцкіх канцэртах. Арыя Атэла, многія іншыя музычныя творы, якія давялося чуць у яго выкананні, гучаць на ўзроўні вопытных саліставаў. Маладыя муж і жонка іншы раз спяваюць дуэтам, і адчуваецца ў іх выкананні многае, перанятае ад творчай манеры старэйшых, -- бацькоў і настаўнікаў. Сямейная дынастыя, творчая спадчыннія пераемнасць, у самым высокім разуменні гэтага слова, працягваецца...

Але як складуцца шляхі маладых талентаў у нашай краіне, калі ў гады крызіснага заняпаду ёй не да мастацтва, не да культуры, не да беражлівых, чулых адносін да духоўных скарбаў нацыі? Ці вытрымаюць яны выпрабаванні нашым побытам, мізэрнымі зарплатамі, як вытрымліваюць старэйшыя? Даўно вядомая ісціна: без культуры (мовы, гісторыі, літаратуры, мастацтва) -- няма дзяржавы.

Лідзія САВІК.

*"ЗА СВАЁ ЧАЛАВЕЧАЕ І НАРОДНАЕ ПРАВА"*

# КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

Святар і даследчык А.Станкевіч у свой час пісаў пра гэта так: "Вось жа Каліноўскі жадаў закрануць гэту балючую рану, каб і на адзінку рэлігійнага жыцця ўзбудзіць у нашым народзе нянавісць да царскага на Беларусі панавання.

Урэшце выступленьне нашага паўстанца за рэлігійную унію можна такжа тлумачыць як, прынамсі, падсьведамае імкненьне беларускай яго душы да шуканьня сінтэзы, да шуканьня моцнага і найбольш адпаведнага грунту дзеля закапаньня рэлігійнага рову, які разьдзёр беларускі народ на дзьве варожыя часткі. Гэткім грунтам, гэткім спосабам, у вачах яго сусім шчыра магла рысавацца іменна унія" (Станкевіч А. "Кастусь Каліноўскі, "Мужыцкая Праўда" і ідэя Незалежнасьці Беларусі". Вільня, 1933, с. 30--31). Як бачым, нават вельмі блізкі да гэтай праблематыкі даследчык выказваецца тут даволі асцярожліва. Ды і ўвогуле праблема уніі -- адна з самых складаных і цяжкавырашальных у беларускай гісторыі.

Вядома ж, як, мабыць, і кожны радыкальны палітык, Каліноўскі быў, мусіў быць досыць аднабаковым і, выступаючы за унію, допускаў у сваіх творах, асабліва ў шостым нумары "Мужыцкай праўды", зняважлівае трэціраванне праваслаўя, на што справядліва звяртаюць увагу сёння некаторыя даследчыкі, у прыватнасці У.Казбярук. Гэтая акалічнасць, м[illegible] кажучы, не ўпрыгожвае твораў [illegible]ага героя-рэвалюцыянера, але ці ж можна праз гэта выстаўляць Каліноўскага нейкім "ідэолагам рэлігійнае хатняй вайны" на Беларусі, як робіць ужо згаданы на пачатку нашага артыкула А.Латышонак. Апошні зноў жа сумняваецца на гэтай падставе, ці быў Каліноўскі беларускім нацыянальным дзеячам.

Між тым навука даўно адказала на гэтае пытанне станоўча: Каліноўскі -- выдатны беларускі нацыянальны дзеяч у спецыфічных умовах сярэдзіны XIX стагоддзя, паўстання 1863 года.

Раздумваючы пра шлях свайго народа, Каліноўскі, як і мы сёння, абапіраўся на вопыт мінулага, рамантызуючы гісторыю, знаходзіў у ёй прыцягальныя арыенціры, высокія прыклады. "Быў то калісьці народ наш вольны і багаты", -- пісаў ён у "Мужыцкай праўдзе" (N 2). Думаецца, ён успамінаў пры гэтым часы росквіту ВКЛ, калі беларусы годна баранілі межы сваёй дзяржавы і з не меншым бляскам абаранялі мудрыя дысертацыі ў славутых еўрапейскіх універсітэтах. Любімым героем Каліноўскага быў Т. Касцюшка, ён высока цаніў гістарычнае значэнне такіх прагрэсіўных актаў, як Канстытуцыя 3 мая 1791 года, Паланецкі універсал.

Каліноўскі бачыў свой народ свядомым змагаром за праўду, за лепшую будучыню.

**А калі слова пяройдзе ў дзела,**
**Тагды за праўду станавіся смела,**
**Бо адно з праўдай**
**у грамадзе згодна**
**Дажджэш, Народзе,**
**старасці свабодна.**

Неяк не адразу ўспрымаеш тут слова "старасць". А потым бачыш -- гэта роздум Каліноўскага пра шлях свайго народа, роздум пра тое, што кожны народ праходзіць у сваім развіцці фазы, падобныя на фазы жыцця асобнага чалавека -- надзеі юнацтва, працы і здзяйсненні сталасці, нарэшце прыдбаная пашана, назапашаны дастатак, мудрасць апошняй фазы. Прынамсі, гэтага ён жадаў свайму народу. Нам важна сёння адзначыць, што Каліноўскі глядзеў на свой народ, які меў трывалыя гістарычныя карані, як на нацыю тым не менш маладую, поўную сіл, у якой усё яшчэ наперадзе.

Кастусь Каліноўскі прадвызначыў многае ў далейшым шляху беларусаў. Нельга не пагадзіцца з А. Каўкам, які ў згаданым артыкуле ў "Спадчыне" з поўнай падставай гаворыць: "Этапную ролю ў далейшым развіцці рэвалюцыйна-дэмакратычнае традыцыі, усяго вызваленчага руху адыграла паўстанне 1863--1864 гг. на чале з К. Каліноўскім -- мысляром, паэтам, публіцыстам, першым беларускім дзеячом новага часу. Дзейнасць Каліноўскага кладзе пачатак спалучэнню сацыяльна-эканамічных (найперш аграрных), палітычных, культурна-духоўных, у тым ліку рэлігійных праблемаў у вызваленчым змаганні беларусаў. К. Каліноўскі ставіць, хай напачатку недастаткова выразна і паслядоўна, уласна беларускія ("літоўскія") патрабаванні ў агульнапольскім нацыянальным руху (зноў гэты важны, даклада падмечаны даследчыкам момант. -- **Г.К.**), уключна з ідэяй самастойнасці Літвы-Беларусі ў дэмакратычным саюзе з Польшчаю і Расеяю. Легендарны паўстанец першы звярнуў увагу на сялянства як галоўную дзеятворчую сілу беларускае нацыі, прысвяціў яму нелегальным перыёдык "Мужыцкая праўда".

Адным з важнейшых момантаў беларускай нацыянальнай ідэі, як паказаў яшчэ І. Канчэўскі-Абдзіраловіч у знакамітым філасофскім эсэ "Адвечным шляхам", былі ўзаемаадносіны з Захадам і Усходам. Першую частку гэтай праблемы -- стасункі з Варшавай -- мы з большага пазначылі. Яшчэ больш складанай з'яўляецца пазіцыя Каліноўскага адносна Расіі. Галоўным ворагам вызваленчага руху быў у той перыяд расійскі царызм. І ў той жа час існаваў рэвалюцыйны саюз народаў супраць самадзяржаўя, высокі міжнародны аўтарытэт рускіх рэвалюцыйных мысліцеляў, у першую чаргу А. Герцэна.

Каліноўскі многае (гэта даведзена ў шматлікіх сур'ёзных даследаваннях) узяў у рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Перш за ўсё вострую сацыяльнасць, у той час як польская грамадска-палітычная думка назапасіла багаты вопыт пастановкі нацыянальных аспектаў вызваленчага руху. Ён рашуча -- асабліва на першым часе -- размяжоўваў народ і царызм. Яму належаць высокія словы: "Народ маскоўскі скалаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм".

Распачатае ўзброенае выступленне дыктавала новыя падыходы. У разгар паўстання 6(18) ліпеня 1863 года ў Вільні, несумненна, з удзелам Каліноўскага была выпушчана адозва да народа Літвы-Беларусі, у якой гаварылася (перакладаем з польскай): "Ты паўстаў пад баявы сцяг: няма за ім спакойных гледачоў, толькі Бог адзін і натоўп бяззбройных і ўзброеных ворагаў, як народжаных на Доне і Волзе, так і тых, што высыпалі ў царскай шпіцы на Нёмане і Вяллі. Няма ніводнай бязвіннай маскоўскай душы на нашай зямлі: сумленны сын Масквы бароніць сёння чэсць свайго народа ва ўласнай айчыне, а служкаў царызму на зямлі нашай чакае ганебная кара".

Працяг.
Пачатак у № 2—3.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

*КРАЯЗНАЎСТВА*

# КАРЭЛІЦКІЯ ЧЫТАННІ

Выйшаў з друку зборнік "Першыя і другія карэліцкія чытанні", прымеркаваны да 600-годдзя Карэліч і Міра, што шырока адзначалася ў мінулым годзе.

Выданне даволі абмежаванага накладу -- усяго 230 паасобнікаў, з якіх 80 экземпляраў аддрукаваны за сродкі доктара філасофіі, публіцыста з ЗША, ураджэнца раёна Яна Запрудніка (яны папоўняць амерыканскія бібліятэкі), 100 экземпляраў за сродкі Карэліцкага райвыканкома і на апошнія 50 сродкі выдаткавала ВКП "Белнацыяналсервіс".

У зборніку на 56 старонках змешчаны тэксты дакладаў, паведамленняў, выступленняў, што прагучалі на першых і другіх карэліцкіх краязнаўчых чытаннях у чэрвені 1993-га і чэрвені 1994-га гадоў.

Прысвечаны яны гісторыі і культуры славутых мясцін Карэліцкага раёна, не менш выдатным землякам, што нарадзіліся і жылі тут. Улічваючы сусветную вядомасць мясцін, спадчыны ўраджэнца вёскі Нядзвядкі, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі, вёскі Агароднікі, радзімы вядомага астранаўта Барыса Кіта, паэта з Замір'я Уладзіміра Жылкі, ураджэнца вёскі Скорычы, беларускага паэта Алеся Мілюця, акцёраў-братоў Ільінскіх, выданне можа стаць бібліяграфічнай рэдкасцю.

Другія карэліцкія чытанні, прысвечаныя 600-годдзю Міра, Карэліч і 50-годдзю вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пададзены больш шырока, бо раён знаходзіўся ў эпіцэнтры полымя вайны 1941—1945 гадоў.

Нагадаю асноўных выступоўцаў I і II карэліцкіх краязнаўчых чытанняў: Ірына Багдановіч, Янка Брыль, Дзмітрый Бубноўскі, Тамара Габрусь, Ян Запруднік, Вольга Іпатава, Уладзімір Карпук, Яўген Крамко, Лідзія Кулажэнка, Сцяпан Лаўшук, Уладзімір Навумовіч, Наталля Пятровіч, Лідзія Савік, Адам Мальдзіс, Уладзімір Мархель, Кастусь Цвірка, Міхась Чарняўскі, Мая Яніцкая...

Арганізатары мінулых чытанняў -- Карэліцкі райвыканком і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны -- ладзяць трэція чарговыя краязнаўчыя чытанні, якія будуць прысвечаны 200-гадоваму юбілею ўраджэнца вёскі Малюшычы Яна Чачота -- беларускага паэта і фалькларыста, які апеў адным з першых Радзіму -- Беларусь у сваіх вершах, яе шчырых людзей і перш за ўсё селяніна, вёску. Адбудуцца трэція чытанні 22 чэрвеня 1996 года.

**Пётр ЖЭБРАК.**



# ТЭАТР — ДЗЕЦЯМ

**Слонімскі беларускі драматычны тэатр шмат працуе для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. Перад сабой ён заўсёды ставіць тры задачы: паказаць, як у звычайным, будзённым жыцці можна свабодна і лёгка валодаць роднаю мовай; быць верным сябрам і дарадчыкам дзіцячых садоў і школ у практычнай дапамозе па адраджэнню беларускай культуры; захапіць дзяцей мастацтвам, навучыць іх разумець цудоўнае.**

**Толькі за мінулы год юныя гледачы паглядзелі спектаклі "Апошні дыназаўрык" па п'есе Алеся Якімовіча, "Чырвоная Шапачка" па п'есе Яўгена Шварца (пераклад Алеся Карлюкевіча), "Новыя прыгоды ў Прастаквашыне" па аповесці Эдуарда Успенскага. А ў першыя дні новага 1996 года дзеці ўбачылі ў тэатры прэм'еру спектакля "Дзед Мароз і Лясун" па п'есе Людмілы Рублеўскай. Гэтая вясёлая казка апавядае аб незвычайных лясных прыгодах Дзеда Мароза, Снягуркі, Лесуна, Зайца, Ваўка і добрай Феі-дабрадзеі. Перамагае, як заўсёды, дабро.**

**Спектакль паставіў рэжысёр Мікалай Варвашэвіч.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Дзед Мароз і Лясун".**

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ВЫРАТАВАНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ



**Брэстаўчанка Вольга Алімава ў свой час скончыла Маскоўскае мастацкае вучылішча і атрымала рэдкую спецыяльнасць -- мастак-рэстаўратар. Цяпер яна працуе па сваёй спецыяльнасці ў Брэсцкім музеі выратаваных каштоўнасцей. Не сакрэт, што кантрабандысты, перавозячы ў тайніках унікальныя творы мастацтва, па-варварску ставяцца да іх. Былі выпадкі, калі нават іконы распілваліся на некалькі частак.**

**Справа ў рэстаўратара карпатлівая: у год аднаўляецца ўсяго 5--6 работ.**

**НА ЗДЫМКУ: мастак-рэстаўратар Вольга АЛІМАВА з іконамі XVII--XVIII стагоддзяў.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## *СПОРТ*

СТРАЛЬБА. Многія вядомыя спартсмены свету прынялі ўдзел у спаборніцтвах з серыі Гран пры, якія прайшлі ў Фінляндыі. Тут паспяхова выступілі і беларускія стралкі. "Золата" заваявалі Анатоль Кліменка і Лаліта Мільшына. Другое месца заняла алімпійская чэмпіёнка Ірына Шылава.

ВАЛЕЙБОЛ. Сярод беларускіх клубных каманд, якія ўдзельнічаюць у розыгрышах еўрапейскіх кубкаў, найбольшага поспеху дабіліся спартсмены гродзенскага "Камунальніка". У другім туры яны з "сухім" лікам -- 3:0 перамаглі вельмі моцную каманду "Альком" з Галандыі.

ХАКЕЙ. Нядаўна нямецкі клуб "Кёльн" заняў другое месца ў розыгрышы Кубка Еўропы. І гэта таму, што ў камандзе гуляюць некалькі высакакласных выхаванцаў савецкай школы хакея.

І вось апошняя навіна. У гэты клуб пераходзіць і былы беларускі спартсмен Мікалай Баршчэўскі, які пасля мінскіх "Юнацтва" і "Дынама", маскоўскага "Спартака" выдатна праявіў сябе ў чэмпіянаце НХЛ у клубе "Калгары Флеймз".

ГІРАВЫ СПОРТ. Трэці чэмпіянат свету прайшоў у Чувашыі. Тут другое месца заняў наш зямляк Віктар Калмук. Яшчэ адзін медаль, "бронзавы", дастаўся беларусу, уладальніку Кубка свету Валерыю Лянгнеру.

ШТАНГА. У Будапешце прайшло першынство Еўропы сярод жанчын па жыму штангі лежачы. У вагавой катэгорыі да 60 кілаграмаў гамяльчанка Любоў Бялова не толькі выйграла першае месца, але і ўстанавіла новае сусветнае дасягненне -- 115 кілаграмаў.

# КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Потым пад уплывам паражэння паўстання, пад уплывам пачварнай дзейнасці Мураўёва-вешальніка і яго памагатых, ва ўмовах усё больш відавочнай кансалідацыі расійскага грамадства пад шавіністычнымі, антыпаўстанцкімі лозунгамі пачуццё Каліноўскага да Расіі яшчэ больш ускладнілася. У "Пісьмах з-пад шыбеніцы" ў яго вырваліся горкія і нават несправядлівыя словы ў адрас рускага народа, які, на яго думку, зусім змірыўся са сваім ярмом. Здаецца, Каліноўскі зрабіў канчатковы выбар: "Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжэ не будзе". І разам з тым ён зноў і зноў вяртаецца да праблемы выбару шляхоў. У апошніх запісцы, адрасаванай уладам, ён пісаў (прычым гэта не кан'юнктурныя словы -- прынамсі, ілюзій наконт свайго далейшага лёсу ў яго не было, літасці ён не чакаў): "Я не противник счастья народного, не противник и России, если она нам добра желает, но противник тех бедствий, которые посягают край наш несчастный".

У рэшце рэшт галоўнаю мераю ўсяго для Каліноўскага было "шчасце народнае", дабрабыт і духоўнае здароўе народа. І -- праўда, якая ўяўлялася яму ў двух узаемазвязаных іпастасях: праўда-ісціна і праўда-справядлівасць.

Гісторыя не дае нам гатовых рэцэптаў, прамых рэкамендацый да дзеяння. Але для нас заўсёды надзвычай важны агульны сэнс, які заключаецца ў даным выпадку ў тым, што беларуская нацыянальная ідэя, ідэя беларускай дзяржаўнасці -- не мімалётны капрыз нейкай ізаляванай купкі нацыяналаў, яна прыйшла да нас з глыбіні стагоддзяў і выпакутавана розумам і барацьбой многіх пакаленняў сыноў і дачок Беларусі, сярод якіх зоркай першай велічыні ззяе імя Каліноўскага.

Памяць пра гераічную барацьбу Каліноўскага з расійскім самадзяржаўем, пра яго непахіснасць у спрэчках з варшаўскімі канспіратарамі, якія не разумелі новай раскладкі сіл на гістарычнай арэне, гэтая памяць, як і яго вера ў годную будучыню свайго народа, увасобленая ў бліскучай публіцыстыцы, -- ва ўсе часы, пры ўсіх выпрабаваннях будуць служыць важным падмуркам нязгаснай беларускай нацыянальнай ідэі, нацыянальнай свядомасці беларусаў.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 315. Падпісана да друку 22.1.1996 г.